

# ДУШЫ ЧЫСТЦА

Цыцэрон сказаў у адным месцы, здаецца, у трактаце *«Аб натуры багоў»*, што ёсць некалькі Юпітэраў — адзін Юпітэр на Крыце, яшчэ адзін у Алімпіі, яшчэ адзін у іншым месцы — так што ў Грэцыі няма ніводнага хоць трохі вядомага горада, дзе б не было свайго ўласнага Юпітэра. З усіх гэтых Юпітэраў зрабілі аднаго, якому прыпісалі ўсе авантуры кожнага яго цёзкі. Гэтым і тлумачыцца тая незлічоная колькасць любосных прыгодаў, з якіх славіцца гэты бог.

Гэткая ж самая блытаніна адбылася і з донам Хуанам, персанажам, які сваёй славутасцю набліжаецца да Юпітэравай. Адна толькі Севілья мае некалькіх донаў Хуанаў. Свой дон Хуан ёсць і ў шмат якіх іншых гарадах. Аб кожным з іх некалі было асобнае паданне, але з часам усе яны зліліся ў адно.

Аднак, прыгледзеўшыся ўважлівей, можна лёгка вылучыць долю кожнага з прататыпаў у агульным паданні або, прынамсі, адрозніць сярод іх двух герояў, а менавіта: дона Хуана Тэнорыо, якога, як усім ведама, уцягнула за сабою каменная статуя, і дона Хуана дэ Маранья, які скончыў зусім інакш.

Пра жыццё абодвух расказваюць аднолькава: паданні розняцца толькі развязкаю. А развязак шмат — на ўсе густы, як у п'есах Дзюсі, якія, залежна ад чуллівасці чытачоў, могуць канчацца або добра, або дрэнна.

Што ж да праўдзівасці гэтага апавядання ці гэтых двух апавяданняў, дык яна бясспрэчная, і вы б надзвычай абразілі мясцовы севільскі патрыятызм, калі б засумняваліся ў існаванні гэтых шыбенікаў, якія паставілі пад падазрэнне радаводы найшляхотнейшых севільскіх сем'яў. Дом дона Хуана Тэнорыо паказваюць іншаземцам, і няма ніводнага

аматара мастацтваў, які б, пабыўшы ў Севільі, не наведаў царквы Міласэрнасці. Там можна пабачыць магілу рыцара дэ Маранья, а на ёй такі надпіс, прадыктаваны яго пакорнасцю ці, калі хочаце, гордасцю: *Aquí yace el peor hombre que fué en el mundo*[1]. І як пасля гэтага сумнявацца? Паказаўшы вам гэтыя два помнікі, ваш чычэронэ, безумоўна, раскажа вам і пра тое, як дон Хуан (невядома каторы) зрабіў дзіўныя прапановы Хіральдзе, бронзавай статуі, што вянчае маўрытанскую вежу катэдры, і як Хіральда гэтыя прапановы прыняла; пра тое, як сагрэты вінам дон Хуан, гуляючы левым берагам Гвадалквівіра, папрасіў агню ў чалавека, што ішоў правым берагам і курыў цыгару, і як рука таго чалавека (а гэта быў не хто іншы, як сам д'ябал) падоўжылася настолькі, што працягнулася праз раку і падала дону Хуану цыгару, ад якое ён запаліў сваю, ані не зважыўшы на гэтае папярэджанне, гэтак зачулела яго душа...

Я паспрабаваў вызначыць долю кожнага з донаў Хуанаў у агульнай карціне іх зладзействаў і злачынстваў. Не бачачы лепшага выйсця, я пастараўся апісаць толькі тыя прыгоды майго героя дона Хуана дэ Маранья, якія паводле ўстойлівае традыцыі не прыпісваюцца дону Хуану Тэнорыо, так добра ў нас вядомаму дзякуючы шэдэўрам Мальера і Моцарта.

Граф дон Карлас дэ Маранья быў адным з самых багатых і паважаных дваран Севільі. Ён паходзіў са славутага роду і ў вайне супраць паўстанцаў-марыскаў сваёю смеласцю даказаў, што варты сваіх выбітных продкаў. Пасля скарэння Альпухары ён вярнуўся ў Севілью са шнарам на лобе і з безліччу запалоненых дзяцей нявернікаў, якіх ён парупіўся ахрысціць і з выгодай прадаў у хрысціянскія дамы. Нягледзячы на раны, якія, зрэшты, зусім не псавалі яго твару, ён спадабаўся адной панне з добрага дому, і яна аддала яму перавагу над шматлікімі кавалерамі, што дамагаліся яе рукі. Ад гэтага шлюбу нарадзілася спачатку некалькі дачок, з якіх адны па пэўным часе выйшлі замуж, а другія пайшлі ў кляштар. Дон Карлас дэ Маранья ўжо быў зусім зняверыўся мець прадаўжальніка роду, як урэшце нарадзіўся сын, і сэрца яго напоўнілася радасцю і спадзя-

[1] Тут спачывае найгоршы з людзей, што толькі жыў на свеце *(ісп.)*.

ваннем, што яго старажытны маярат не пяройдзе да бочнае лініі.

Дон Хуан, гэты так чаканы сын, герой гэтае праўдзівае гісторыі, рос пестуном, як і належыць адзінаму спадкаемцу славутага імя і вялікага багацця. Яшчэ зусім дзіцем, ён ужо быў сам сабе гаспадар, і ў бацькавым палацы ніхто не наважваўся яму пярэчыць. Але ж толькі маці хацела, каб ён быў гэткі пабожны, як яна, а бацька — каб сын быў адважны, як і ён сам. Тая, годзячы дзіцяці пяшчотамі і пачастункамі, прымушала яго завучваць літаніі, ружанцы, усе абавязковыя і дадатковыя малітвы. Замест калыханкі яна чытала яму з жыццяў святых. Са свайго боку, бацька вучыў сына рамансам пра Сіда і Бернарда дэль Карпіо, расказваў яму пра паўстанне марыскаў і глядзеў з ухвалай, калі сын праз цэлы дзень практыкаваўся кідаць кап'ё, страляць з арбалета ці нават з аркебузы ў ляльку, убраную на маўра, якую ён загадаў паставіць у канцы саду.

У хатняй бажніцы графіні дэ Маранья вісела карціна ў сухім і змрочным стылі Маралеса, на якой паказваліся чыстцовыя пакуты. Усе магчымыя катаванні, якія толькі мог сабе ўявіць мастак, былі змаляваныя з такой дакладнасцю, што і кат-інквізітар не згледзеў бы там ніводнае хібы. Чыстцовыя душы месціліся ў нейкай вялізнай яміне-пячоры, уверсе якое віднелася прадушына. Над краем гэтай адтуліны анёл падаваў руку душы, што пакідала гэтае месцішча пакутаў, а побач з ім стаяў немалады ўжо чалавек з ружанцам у сашчэпленых руках і, па ўсім відаць, з незвычайным запалам маліўся. Гэты чалавек быў данатарам карціны, што прызначалася царкве ва Уэсцы. Паўстанцы-марыскі падпалілі горад, царква загінула ў пажары, але праз нейкі цуд карціна ацалела. Граф дэ Маранья прывёз яе з сабою і ўпрыгожыў ёю жончыну бажніцу. Кожнага разу, як маленькі Хуан заходзіў у матчын пакой, ён спыняўся перад карцінай і доўга разглядаў яе са страхам і захапленнем. Асабліва ўражваў яго на карціне чалавек, што вісеў, зачэплены за рэбры жалезнымі крукамі, над палаючым вуголлем і якому змяя выядала нутро. Звярнуўшы застрашаны і спадзеўны позірк да прадушыны, гэты гаротнік, здавалася, прасіў пабожнага данатара аб малітвах, што выбавілі б яго ад гэтулькіх пакутаў. Графіня не прапускала нагоды, каб растлумачыць сыну, што гэты няшчасны церпіць такое пакаранне, бо не ведаў як след катэхізіса, бо смяяўся са святара, бо няўважліва слухаў набажэнствы ў царкве. Душа, што адлятала да раю, была душою аднаго сеньёра

з роду Маранья, за якім, відаць, былі нейкія дробныя правіны; але граф дэ Маранья маліўся за яго, раздаваў грошы царкоўнікам, каб адкупіць яго ад агню і катаванняў, і мог урэшце ўсцешыцца, што душа яго родзіча адляцела ў рай, не вельмі доўга марнуючыся ў чыстцы.

— Але ж, Хуаніта,— дадавала графіня,— і я некалі буду так пакутаваць і застануся на мільён гадоў у чыстцы, калі ты не будзеш заказваць імшаў за збавенне маёй душы! Як нядобра будзе пакінуць бедаваць маці, якая цябе выгадавала!

Тады хлопчык пачынаў плакаць, і, знайшоўшы ў кішэні некалькі рэалаў, спяшаўся аддаць іх першаму стрэчнаму збіральніку ахвяраванняў на збавенне чыстцовых душ.

Уваходзячы ў кабінет свайго бацькі, ён бачыў панцыр, пашчэрблены пішчальнымі кулямі, шалом, што быў на графе дэ Маранья падчас аблогі Альмерыі і на якім застаўся след мусульманскае сякеры; гэты пакой аздаблялі дзіды, маўрытанскія шаблі, забраныя ў няверных вайсковыя штандары.

— Гэтую шаблю я забраў у вехерскага кадзі,— сказаў граф.— Ён паспеў тройчы мяне ўдарыць, перш чым я рашыў яго жыцця. Пад гэтым штандарам ваявалі паўстанцы Эльвірскай гары. Яны знішчылі хрысціянскую вёску, і я прыскакаў туды з дваццаццю коннікамі. Чатыры разы я спрабаваў убіцца ў сярэдзіну іх атрада, каб захапіць гэты штандар, і чатыры разы адступаў. На пяты раз я перажагнаўся і, закрычаўшы «Святы Якубе!», уварваўся між паганцаў. А бачыш гэтую залатую чару, што я нашу ў сваім гербе? Адзін маўрытанскі альфакі выкраў яе з царквы, дзе ён учыніў безліч брыдкасцяў. Яго коні елі авёс з алтара, а яго салдаты раскідалі святыя мошчы. Альфакі піў з гэтае чары шэрбет са снегам. Я заспеў яго ў намёце, калі ён падносіў да вуснаў гэтую свяшчэнную пасудзіну. Перш чым ён паспеў прамовіць «Алах!», пакуль напой яшчэ цёк у горле, я секануў гэтай добрай шабляй паголены чэрап гэтага сабакі, і лязо ўвайшло ў галаву да самых зубоў. Як напамін пра гэтую свяшчэнную адпомсту кароль дазволіў мне ўзяць у герб залатую чару. Я кажу табе пра гэта, Хуаніта, каб ты расказаў сваім дзецям, хай яны ведаюць, чаму ў цябе герб трошкі не такі, як герб твайго дзеда, дона Дыега, што вымаляваны над яго партрэтам.

Вагаючыся ў душы паміж ваяўнічасцю і пабожнасцю, хлопчык праз цэлы дзень майстраваў з лясачак крыжыкі або, узброіўшыся драўлянай шабляю, біўся ў горадзе з вя-

лізнымі гарбузамі, што вельмі нагадвалі, як яму думалася, галовы маўраў у цюрбанах.

У васемнаццаць год дон Хуан даволі слаба ведаў лаціну, добра ўмеў служыць імшу і валодаў рапіраю або двуручным мячом не горш за Сіда. Бацька, уважаючы, што дваранін роду Маранья мусіў мець яшчэ сякія-такія веды, вырашыў адаслаць яго ў Саламанку. Хутка ўсё было гатова да ад'езду. Маці дала яму з сабою безліч ружанцаў, шкаплераў і пасвянцоных абразкоў, а таксама навучыла яго шматлікім малітвам, дужа прыдатным у самых розных жыццёвых абставінах. Дон Карлас падараваў яму шпагу са срэбным узорам і сямейным гербам на тронку.

— Дагэтуль ты жыў сярод дзяцей,— сказаў ён сыну.— Цяпер будзеш жыць сярод мужчын. Запомні, што найвялікшая каштоўнасць двараніна — яго гонар, а твой гонар — гэта гонар роду Маранья. Хай лепш загіне апошні атожылак нашага роду, чым заплямецца яго гонар! Вазьмі гэтую шпагу, яна абароніць цябе, калі на цябе нападуць. Ніколі не даставай яе першы, але памятай, што твае продкі ніколі не ўкладалі яе ў ножны, пакуль не перамагалі, адпомсціўшы за крыўду.

І так, абаронены нябеснай і зямною зброяй, малады нашчадак роду Маранья сеў на каня і пакінуў бацькоўскае гняздо.

Саламанкскі універсітэт быў тымі часамі ў поўні славы. Ніколі ў ім яшчэ не было столькі студэнтаў, ніколі не было такіх вучоных прафесараў. Але разам з тым ніколі гараджанам не даводзілася цярпець столькі свавольстваў неўтаймаванае моладзі, што жыла, ці, лепей сказаць, панавала ў іх горадзе. Серэнады, гвалт, начныя скандалы — гэткі быў іх звычайны жыццёвы лад, аднастайнасць якога часам ажыўлялі выкраданні чужых жонак і дачок, крадзяжы і бойкі. Прыехаўшы ў Саламанку, дон Хуан патраціў колькі дзён на тое, каб перадаць рэкамендацыйныя лісты бацькавым сябрам, наведаць сваіх будучых выкладчыкаў, абегчы ўсе цэрквы і агледзець святыя мошчы, што там захоўваліся. З бацькавай волі ён перадаў аднаму выкладчыку даволі значную суму грошай, каб той раздаў іх бедным студэнтам. Гэтая шчодрасць мела вялікі поспех, і ў яго адразу з'явілася шмат сяброў.

Дон Хуан прагнуў вучыцца. Ён намерыўся слухаць, як словы Евангелля, усё, што выйдзе з вуснаў яго выкладчыкаў, і, каб нічога не прапусціць, ён вырашыў сесці як мага бліжэй да кафедры. Увайшоўшы ў залу, дзе мелася адбыцца

лекцыя, ён убачыў пустое месца зусім побач з выкладчыкам і сеў. Нейкі нехлямяжы, калматы студэнт у лахманах замест вопраткі, якіх багата бывае ва універсітэтах, на хвіліну адарваўся ад кнігі і здзіўлена ўтаропіўся на дона Хуана.

— Вы селі на гэтае месца,— сказаў ён амаль напалохана,— ці вы не ведаеце, што тут звычайна сядзіць дон Гарсія Навара?

Дон Хуан адказаў, што заўсёды думаў, што месца належыць першаму, хто яго займе, і што, убачыўшы пустое месца, ён падумаў, што мае права яго заняць, а пагатоў, калі шаноўны дон Гарсія не папрасіў свайго суседа патрымаць для яго гэтае месца.

— Вы, як я бачу, тут чужы,— адказаў студэнт,— і прыехалі зусім нядаўна, калі не ведаеце дона Гарсію. Дык жа ведайце, што гэты чалавек адзін з самых...

Студэнт сцішыў голас, відаць, баючыся, каб яго не пачуў хто іншы.

— Дон Гарсія — страшны чалавек. Гора таму, хто яго абразіць! У яго кароткае цярпенне і доўгая шпага, і будзьце пэўныя, што, калі нехта сядзе на месца, дзе ўжо двойчы сядзеў дон Гарсія, гэтага будзе дастаткова для сваркі, бо ён дужа крыўдлівы. Калі ён сварыцца, ён б'е, а калі ён б'е, ён забівае. Але ж мая справа — папярэдзіць, а вы ўжо рабіце як хочаце.

Дону Хуану падалося дзіўным, што гэты дон Гарсія дамагаецца найлепшых месцаў, а сам не дбае нават пра тое, каб прыйсці без спазнення на лекцыю. Разам з тым ён убачыў, што многія студэнты не зводзяць з яго вачэй, і адчуў, якая будзе ганьба, калі ён пакіне гэтае месца. З другога боку, ён зусім не збіраўся сварыцца толькі прыехаўшы, а тым болей з такім небяспечным чалавекам, якім нібыта быў дон Гарсія. Ён разгублена сядзеў на месцы, не ведаючы што рабіць, калі ў залу ўвайшоў нейкі студэнт і накіраваўся проста да яго.

— Гэта дон Гарсія,— сказаў сусед.

Дон Гарсія быў зграбны шыракаплечы маладзён са смуглым тварам, гордым позіркам і пагардлівымі вуснамі. На ім была зношаная камізэлька, некалі чорная, і дзіравы плашч, а паверх усяго вісеў доўгі залаты ланцуг. Вядома, што ва ўсе часы студэнты ў Саламанцы і іншых іспанскіх універсітэтах лічылі за гонар апранацца ў лахманы, хочучы, мабыць, паказаць тым самым, што сапраўдная цнота можа абысціся і без аздобаў, пазычаных у багацця.

Дон Гарсія падышоў да лавы, дзе ўсё яшчэ сядзеў дон Хуан, вельмі пачціва з ім павітаўся і сказаў:

— Сеньёр студэнт, вы сярод нас навічок, аднак я добра ведаю ваша імя. Нашы бацькі былі блізкія сябры, і, калі вы не запярэчыце, гэткімі ж сябрамі стануць і іх сыны.

Сказаўшы гэта, ён з усёй сардэчнасцю падаў дону Хуану руку. Дон Хуан, чакаўшы зусім іншае размовы, паспешліва адказаў на пачцівую ветлівасць дона Гарсіі, запэўніўшы, што будзе вельмі ўсцешаны мець за сябра такога прыстойнага чалавека.

— Вы яшчэ зусім не ведаеце Саламанкі,— працягваў дон Гарсія.— Калі вы згодзіцеся, каб я быў вашым праваднікам, я буду рады паказаць вам усё да найменшых драбніц у краі, дзе вам давядзецца жыць.

Пасля ён павярнуўся да студэнта, што сядзеў побач з донам Хуанам:

— Ану, Пэрыка, ідзі-тка адсюль. Ці ты думаеш, што такі хамуйла, як ты, можа сядзець побач з сеньёрам донам Хуанам дэ Маранья?

Сказаўшы гэта, ён даў яму добрага штурхаля і сеў на яго месца.

Калі лекцыя скончылася, дон Гарсія даў новаму сябру свой адрас і ўзяў з яго абяцанне прыйсці ў госці. Пасля ён па-сяброўску памахаў рукою на развітанне і выйшаў, элеганцкім рухам накінуўшы на плечы свой дзіравы, як рэшата, плашч.

Дон Хуан з кнігамі пад пахай спыніўся ў галерэі калегіі, каб паглядзець старыя надпісы на сценах, калі заўважыў, што студэнт, які першы з ім загаварыў, падышоў да яго, быццам хочучы разгледзець тыя самыя надпісы. Дон Хуан, кіўнуўшы, каб паказаць, што пазнаў яго, збіраўся быў пайсці ўжо, але студэнт прытрымаў яго за крысо плашча.

— Сеньёр дон Хуан,— сказаў ён,— калі вы нікуды не спяшаецеся, ці не будзеце вы так ласкавыя і ці не падаруеце мне хвілінку, каб пагаварыць?

— Калі ласка,— адказаў дон Хуан і прыхіліўся да калоны,— я вас слухаю.

Пэрыка з трывогай азірнуўся навокал, быццам баючыся, што нехта яго ўбачыць, і падышоў да дона Хуана, каб сказаць яму нешта на вуха. Здаецца, гэта была залішняя асцярога, бо ў прасторнай гатычнай галерэі, апроч іх, нікога не было. Памаўчаўшы хвіліну, студэнт запытаўся ціхім дрыготкім голасам:

— Скажыце, калі ласка, ці ваш бацька сапраўды ведаў бацьку дона Гарсіі Навары?

Дон Хуан здзівіўся.

— Вы ж чулі, як дон Гарсія толькі што пра гэта гаварыў.

— Чуў,— адказаў студэнт, яшчэ больш сцішыўшы голас,— але ці ваш бацька калі-небудзь казаў вам, што ён ведаў сеньёра Навару?

— Вядома ж казаў, ён разам з ім ваяваў супраць марыскаў.

— Цудоўна. Але ці чулі вы, каб гэты паважны дваранін меў... сына?

— Праўду кажучы, я не надта слухаў, што мой бацька мог пра гэта казаць... Але нашто гэтыя пытанні? Хіба дон Гарсія не сын сеньёра Навары?.. Ці ён пазашлюбнае дзіця?

— Хай неба будзе мне сведкам, што я нічога гэткага не казаў,— закрычаў напалоханы студэнт, зазіраючы за калону, да якой прытуліўся дон Хуан,— я толькі хацеў у вас запытацца, ці не ведаеце вы тую дзіўную гісторыю, якую шмат хто расказвае пра дона Гарсію?

— Нічога не ведаю.

— Кажуць, што... заўважце: я толькі паўтараю тое, што чуў ад іншых... кажуць, што дон Дыега Навара меў сына, які ў шэсць ці сем гадоў захварэў на нейкую цяжкую і такую дзіўную хваробу, што лекары не ведалі, чым яму дапамагчы. Бацька, у якога болей не было дзяцей, слаў шчодрыя ахвяраванні розным святым, даваў хвораму дакрануцца да святых мошчаў, і ўсё марна. І вось аднойчы, кажуць, упаўшы ў роспач, ён сказаў, стоячы перад абразом святога Міхала: «Ты не можаш уратаваць майго сына, дык паглядзім, ці той, хто ў цябе пад нагамі, не мацнейшы за цябе».

— Якое страшнае блюзнерства! — закрычаў збялелы ад абурэння дон Хуан.

— У хуткім часе хлопчык ачуняў... і гэты хлопчык... гэта дон Гарсія!

— І з тых часоў у доне Гарсіі жыве д'ябал,— сказаў, засмяяўшыся, дон Гарсія і выйшаў з-за суседняй калоны, дзе ён хаваўся і чуў усю гутарку.— Па праўдзе кажучы, Пэрыка,— сказаў ён халодна і зняважліва аслупянеламу ад страху студэнту,— калі б вы не былі баязліўцам, я б змусіў вас раскаяцца за смеласць гаварыць пра мяне. Сеньёр дон Хуан,— звярнуўся ён да Мараны,— калі вы лепш нас уведаеце, вы не будзеце траціць час на гэтага балабона. Дарэчы, каб вы і сапраўды не падумалі, што я

выпладзень пекла, хадземце зараз жа ў царкву святога Пятра. А калі мы памолімся, я дазволю сабе запрасіць вас на сціплы абед разам з параю таварышаў.

Сказаўшы гэта, ён узяў за руку дона Хуана, які, збянтэжаны тым, што яго заспелі за слуханнем дзіўнага апавядання Пэрыка, адразу ж пагадзіўся, каб паказаць свайму новаму сябру, што ён не надае ніякае ўвагі толькі што пачутым абгаворам.

Увайшоўшы ў царкву святога Пятра, дон Хуан і дон Гарсія ўкленчылі каля аднаго з бакавых алтароў, вакол якога сабралася багата вернікаў. Дон Хуан адчытаў ціхім голасам сваю малітву, і, хоць гэтая пабожная справа заняла належны час, ён убачыў, падняўшы галаву, што яго таварыш усё яшчэ ахоплены малітоўным экстазам. Ён ціхенька варушыў вуснамі, і здавалася, што да канца яго медытацый яшчэ далёка. Дону Хуану зрабілася сорамна, што ён скончыў так рана, і ён пачаў ціхенька адчытваць літаніі, што прыходзілі яму на памяць. Літаніі хутка скончыліся, а дон Гарсія ўсё яшчэ нерухома стаяў на каленях. Дон Хуан безуважна адшаптаў яшчэ некалькі кароткіх модлаў, пасля, бачачы, што яго таварыш усё яшчэ моліцца, ён вырашыў трошкі агледзецца навокал, каб прабавіць час і дачакацца канца гэтага няспыннага малення. Яго ўвагу адразу прыцягнулі тры жанчыны, што кленчылі на турэцкіх дываночках. Адна, мяркуючы з яе веку, акуляраў і вялізнага чапца, была няйначай дуэнья. Дзве іншыя былі маладзенькія і прыгожыя, яны глядзелі на ружанец, апусціўшы вочы якраз настолькі, каб можна было заўважыць, што вочы гэтыя былі вялікія і прыгожыя. Дон Хуан з задавальненнем разглядаў адну з іх, з задавальненнем, можа, і залішнім для святога месца. Забыўшыся, што таварыш моліцца, ён патузаў яго за рукаў і ціхенька спытаўся, хто тая паненка, што трымае бурштынавы ружанец.

Гарсія, ані не абураны тым, што яго перапынілі, адказаў:

— Гэта донья Тэрэса дэ Охэда, а гэта — донья Фаўста, яе старшая сястра, абедзве — дочкі аўдытара кастыльскае рады. Я закаханы ў старэйшую, а вы паспрабуйце закахацца ў маладзейшую. Глядзіце,— дадаў ён,— яны ўсталі і зараз выйдуць з царквы. Хадземце хутчэй, каб пабачыць, як яны будуць садзіцца ў карэту. Можа, вецер прыўзніме ім спадніцы, і мы ўбачым прыгожанькую ножку ці нават дзве.

Дон Хуан быў так уражаны прыгажосцю доны Тэрэсы, што, не зважаючы на таварышаў непрыстойны тон, пайшоў

за донам Гарсіям да дзвярэй царквы і ўбачыў, як дзве шляхетныя паненкі селі ў карэту і з'ехалі з плошчы ў адну з найбольш людных вуліц. Калі яны ад'ехалі, дон Гарсія, ссунуўшы капялюш набакір, весела сказаў:

— Цудоўныя дзяўчаты! Хай мяне халера возьме, калі праз дзесяць дзён старэйшая не будзе мая! А як у вас пайшлі справы з малодшай?

— Што? Як пайшлі справы? — наіўна перапытаўся дон Хуан.— Ды я ж упершыню яе бачыў!

— Ды няўжо? — засмяяўся дон Гарсія.— А вы думаеце, я ведаю Фаўсту даўней? Аднак жа сёння я паспеў перадаць ёй цыдулку, і яна прыняла яе прыхільна.

— Цыдулку? Але ж я не бачыў, каб вы нешта пісалі!

— Я заўсёды нашу з сабой ужо гатовыя, і калі на іх не стаіць імя, дык можна слаць іх любой жанчыне. Толькі, каб не рызыкаваць, не трэба пісаць камплімentaў наконт колеру вачэй і валасоў. А што да слёзаў, каханняў-уздыханняў, дык гэта кожнай будзе да душы — і бялявай, і чарнявай, і жанчыне, і дзяўчыне.

Гаворачы так, дон Гарсія і дон Хуан падышлі да дзвярэй дома, дзе іх чакаў абед. Гэта быў студэнцкі стол, можа, не надта шыкоўны і разнастайны, але ж затое ежы было багата: вострыя рагу, салёнае мяса — ад усяго вельмі смажыла. Але ж не бракавала і віна ламанчаскіх і андалусійскіх гатункаў. Некалькі студэнтаў, сяброў дона Гарсіі, ужо яго чакалі. Зараз жа селі за стол, і нейкі час не было чуваць нічога, апроч чвякання і звону шклянак. Хутка віно падагрэла настрой застольнікаў, завязалася гаворка, якая рабілася штораз шумнейшая. Гаварылі толькі пра дуэлі, пра любосныя прыгоды і розныя шкалярскія выбрыкі. Адзін расказаў, як ён абдурыў сваю гаспадыню, з'ехаўшы з пакоя за дзень да таго, як плаціць. Другі заказаў у гандляра віном некалькі збаноў вальдэпанскага на адрас аднаго паважнага прафесара тэалогіі і перахапіў збаны па дарозе, а прафесару давялося аплаціць рахунак. Той набіў начнога патрульнага, іншы з дапамогай вяровачнай лесвіцы прабраўся ў пакой сваёй каханкі, нягледзячы на ўсе захады раўнівага мужа. Слухаючы гэтыя распусныя апавяданні, дон Хуан спачатку разгубіўся. Але выпітае віно і весялосць застольнікаў патроху развеялі яго сарамяжлівую ціхмянасць. Ён смяяўся з гісторый, што расказвалі таварышы, і нават пачаў зайздросціць славе, што некаторыя сабе здабылі сваімі спрытнымі выбрыкамі і махлярствам. І ён пачаў забывацца на тыя мудрыя прынцыпы, з якімі ён прыехаў

ва універсітэт, і засвойваць правілы паводзін студэнтаў. Правілы гэтыя былі простыя, выконваць іх было няцяжка — рабі што хочаш, назаляй, як толькі можаш, усім «чмутам» — той частцы чалавечага роду, якая не запісана ва універсітэцкія рэгістры. Студэнт сярод «чмутоў» — як у варожай краіне, і ён мае права абыходзіцца з імі так, як старажытныя яўрэі абыходзіліся з хананеянамі. Вось толькі пан карэхідор, на жаль, мала паважаў святыя універсітэцкія законы і адно шукаў нагоды, каб як-небудзь дадзець шкаляроў, і таму тыя мусілі трымацца адзін за аднаго, як мага адзін аднаму дапамагаць і, галоўнае — непарушна захоўваць тайну.

Гэтая павучальная гутарка цягнулася, пакуль хапала віна. Калі бутэлькі апаражнелі, думкі ва ўсіх дзіўным чынам пераблыталіся і ўсіх ахапіла неадольнае жаданне спаць. Сонца стаяла яшчэ высока ў небе, і ўсе разышліся, каб трошкі адпачыць. Дон Хуан згадзіўся зайсці да дона Гарсіі. Як толькі ён выцягнуў ногі на скуранай канапе, стома і вінныя выпарэнні адолелі яго, і ён заснуў глыбокім сном. Спачатку яго сны былі такія блытаныя і дзіўныя, што ён адчуваў толькі нейкую няясную млосць, не разумеючы яе прычыны. Але патроху ён пачаў разбірацца ў сваім сне, калі можна так сказаць, сон зрабіўся складнейшы. Яму здавалася, што ён плыве ў лодцы на вялікай рацэ, шырэйшай і бурлівейшай, чым Гвадалквівір узімку. У лодцы не было ні ветразя, ні вёслаў, ні стырна, берагі былі пустыя. Хвалі так моцна калыхалі лодку, што да яго млосці дадалося яшчэ пачуццё, што адчуваюць севільскія разявы, плывучы ў Кадыкс, калі яны ў вусці Гвадалквівіра церпяць першыя прыступы марской хваробы. Неўзабаве рака павузела, ён ужо мог бачыць абодва берагі, і, калі б крыкнуў, яго б там пачулі. Тады на абодвух берагах разам паказаліся дзве святлістыя постаці, яны набліжаліся, кожная са свайго боку, нібы збіраліся яго ўратаваць. Спачатку ён павярнуў галаву направа і ўбачыў старога з паважным і суровым абліччам, босага, з грубай накідкай на плячах замест вопраткі. Здавалася, ён працягнуў дону Хуану руку. Пасля ён паглядзеў налева і ўбачыў высокую жанчыну з вельмі шляхетным і павабным тварам, у руцэ яна трымала вянок з кветак. Разам з тым ён заўважыў, што лодка яго кіруецца сама сабой, без вёслаў, падпарадкоўваючыся ягонай волі. Ён збіраўся высадзіцца на бераг, дзе стаяла жанчына, але крык з правага берага змусіў яго азірнуцца і павярнуць лодку. Стары на беразе глядзеў яшчэ суравей.

Усё цела яго, смяротна-бледнае, было пакрыта ранамі і засохлай крывёю. У адной руцэ ён трымаў цярновы вянок, у другой — бізун з жалезным круком на канцы. Дон Хуан жахнуўся ад гэтага відовішча і хуценька павярнуў да левага берага. Здань, што так яго прычаравала, яшчэ не знікла. Валасы жанчыны развіваліся пад ветрам, вочы гарэлі незвычайным агнём, замест вянка яна цяпер трымала ў руцэ шпагу. Перш чым высадзіцца, дон Хуан спыніўся на хвілінку і, прыгледзеўшыся, заўважыў, што лязо шпагі было чырвонае ад крыві, крывавая была і рука гэтае спакусніцы. Спалохаўшыся, ён падскочыў і прачнуўся. Расплюшчыўшы вочы, ён міжволі закрычаў, бо ўбачыў перад сабою аголеную шпагу. Але шпагу трымала не прыгожая спакусніца. Дон Гарсія збіраўся абудзіць сябра, і, убачыўшы побач з ложкам шпагу адмысловае работы, ён пачаў разглядаць яе вокам знаўцы. На лязе быў надпіс: «Будзь верны». А на тронку, як мы ўжо зазначалі, быў герб, імя і дэвіз роду Маранья.

— У вас прыгожая шпага, дружа,— сказаў дон Гарсія.— Вы, відаць, ужо адпачылі. Ужо ноч, хадземце трошкі пагуляем, а калі прыстойныя людзі ў гэтым горадзе вернуцца дадому, мы пойдзем, калі вы не супраць, спяваць серэнады нашым боскім стварэнням.

Дон Хуан і дон Гарсія гулялі нейкі час на беразе Тормэса і разглядалі жанчын, што выйшлі падыхаць паветрам і зірнуць употай на сваіх каханкаў.

Пасля прагульнікаў трохі паменела, і ўрэшце яны зусім зніклі.

— Цяпер настала тая пара,— сказаў дон Гарсія,— калі горад цалкам належыць студэнтам. Цяпер «чмуты» не наважацца перашкодзіць нам у нашых нявінных забавах. Што ж да начной варты, калі мы выпадкам з ёю сутыкнемся, дык мне не трэба вам тлумачыць, што гэтых нягоднікаў можна не шкадаваць. А калі гэтае навалачы будзе зашмат і нам прыйдзецца трошкі даць працы нагам, дык не хвалюйцеся: я ведаю тут усе сцежкі, бяжыце проста за мною і будзьце пэўныя, што ўсё будзе як мае быць.

Сказаўшы гэта, ён накінуў плашч на левае плячо так, што большая частка твару схавалася, а правая рука засталася свабодная. Дон Хуан зрабіў тое самае, і абодва рушылі да вуліцы, дзе жыла донья Фаўста з сястрою. Мінаючы нейкую царкву, дон Гарсія свіснуў, і невядома адкуль паявіўся яго пахолак з гітараю ў руках. Дон Гарсія ўзяў гітару і адпусціў хлопца.

Калі яны выйшлі на Вальядалідскую вуліцу, дон Хуан сказаў:

— Я бачу, вы хочаце, каб я сцярог вас, пакуль вы будзеце спяваць серэнаду. Будзьце пэўныя, што я заслужу вашае пахвалы. Севілья, мая радзіма, выраклася б мяне, калі б я не здолеў абараніць вуліцу ад злыдняў!

— Я не збіраюся ставіць вас на варту,— адказаў дон Гарсія.— Маё каханне тут, але тут жа і вашае. Кожнаму свая здабыча. Ціха! Вось іх дом. Я стану пад гэтым акном, вы — пад тым, і — увага!

Дон Гарсія наладзіў гітару і пачаў спяваць даволі прыемным голасам раманс, у якім, як звычайна, было пра слёзы, уздыханні і гэтак далей. Можа, ён сам яго і склаў.

Пасля трох ці чатырох куплетаў жалюзі на абодвух вокнах лёгка адсунуліся і пачуўся ціхі кашаль. Гэта значыла, што спевака слухалі. Кажуць, што музыканты ніколі не граюць, калі іх просяць або калі іх слухаюць. Дон Гарсія паклаў гітару на межавы слуп і пачаў ціха гаварыць з адной слухачкай.

Дон Хуан, падняўшы вочы, убачыў над сабою ў акне жанчыну, што, здавалася, пільна яго разглядала. Ён не сумняваўся, што гэта была сястра доны Фаўсты, тая, што паводле ягонага густу і адпаведна з выбарам дона Гарсіі мелася стацца дамай яго сэрца. Але яму яшчэ не ставала смеласці і досведу, ён не ведаў, з чаго пачаць. Раптам з акна ўпала насовачка і пачуўся мілы галасок:

— Ой, Езус!.. мая насовачка ўпала!

Дон Хуан зараз жа яе падхапіў, паклаў на вастрыё шпагі і падняў да акна. Гэта была нагода загаварыць. Той самы галасок пачаў з падзякі, а пасля спытаўся, ці сеньёр кавалер не быў раніцай у царкве святога Пятра. Дон Хуан адказаў, што быў і што пакінуў там спакой свае душы.

— Як жа гэта?

— Калі ўбачыў вас.

Лёд быў зламаны. Дон Хуан быў родам з Севільі, ён ведаў на памяць усе маўрытанскія казкі з іх багатаю мовай кахання. Ён не мог прапусціць нагоды паказаць сваё красамоўства. Яны гаварылі амаль гадзіну. Раптам Тэрэса закрычала, што чуе, як ідзе бацька, і што трэба ўцякаць. Абодва кавалеры пакінулі вуліцу толькі тады, калі дзве беленькія ручкі высунуліся з-пад жалюзі і кінулі кожнаму па галінцы язміну. Дон Хуан вярнуўся дадому і заснуў, галава ў яго поўнілася найчароўнейшымі вобразамі. Што да дона Гарсіі, той пайшоў у шынок і прабавіў там амаль усю рэшту ночы.

Назаўтра зноў былі ўздыханні і серэнады. Так паўтаралася яшчэ колькі начэй. Пасля належных дзеля прыстойнасці ўпінанняў абедзве дамы згадзіліся абмяняцца з кавалерамі пасмачкамі валасоў з дапамогаю ніткі, спушчанай з акна. Дон Гарсія, не звыклы задавольвацца дробязямі, пачаў гаварыць пра вяровачную лесвіцу ці пра падробныя ключы. Гэтую прапанову палічылі занадта смелай і, калі не адкінулі, дык, прынамсі, адклалі на няпэўны тэрмін.

Амаль цэлы месяц дон Хуан і дон Гарсія спявалі пад вокнамі сваіх каханак без значнага поспеху. Адной цёмнай ноччу яны занялі сваё звычайнае месца пад вокнамі, як салдаты на варце. Гаворка, на ўцеху ўсім размоўцам, доўжылася ўжо добрую часіну, калі ў канцы вуліцы паказаліся сем або восем чалавек у плашчах, у паловы з іх у руках былі музычныя інструменты.

— О заступнікі нябесныя! — закрычала Тэрэса.— Гэта дон Крыставаль ідзе спяваць нам серэнады. Ідзіце адсюль, малю вас, каб не было якой бяды!

— Мы нікому не саступім гэтае месца! — закрычаў дон Гарсія.— Гэй, кавалер,— крыкнуў ён таму, хто ішоў наперадзе,— гэтае месца занята, а гэтых дам ваша музыка не цікавіць. Дык, калі ласка, пашукайце шчасця ў іншым месцы.

— Нейкі там драны шкаляр думае, што не дасць нам прайсці! — закрычаў дон Крыставаль.— Ён дорага заплаціць за тое, што асмеліўся гаварыць з маёй каханай.

Сказаўшы гэта, ён схапіў шпагу. Адначасова дзве шпагі бліснулі ў руках у яго памагатых. Дон Гарсія з незвычайным спрытам накруціў плашч на руку, дастаў шпагу і закрычаў:

— Гэй, сюды, студэнты!

Але ў наваколлі не было ніводнага. Музыкі, відаць, баючыся, каб у бойцы не паразбівалі іх інструменты, кінуліся наўцёкі, а абедзве дамы тым часам клікалі на дапамогу ўсіх нябесных святых.

Дон Хуан стаяў пад акном, што было бліжэй да дона Крыставаля і таму мусіў бараніцца першы. Супраціўнік быў спрытны, да таго ж у левай руцэ ў яго быў невялічкі жалезны шчыт, якім ён засланяўся ад удараў. У дона Хуана ж была толькі шпага і плашч. Адступаючы пад імпэтным націскам дона Крыставаля, ён вельмі дарэчы ўспомніў выпад, якому вучыў яго сеньёр Убэрці, настаўнік фехтавання. Ён упаў на левую руку, а правай прасунуў шпагу пад шчытом дона Крыставаля і ўтыркнуў яе між рэбраў з такою сілай,

што лязо зламалася, увайшоўшы ў цела на даўжыню далоні. Дон Крыставаль закрычаў і ўпаў, залітты крывёю. Падчас гэтае сутычкі, што заняла меней часу, чым расказ пра яе, дон Гарсія паспяхова адбіваўся ад двух супрацоўнікаў, якія, убачыўшы, што іх гаспадар забіты, кінуліся наўцёкі.

— Уцякайма і мы,— сказаў дон Гарсія.— Цяпер няма часу забаўляцца. Бывайце, красуні!

І ён сілком пацягнуў за сабою дона Хуана, агаломшанага сваім подзвігам. Калі яны адбегліся крокаў на дваццаць, дон Гарсія спыніўся і спытаўся ў таварыша, куды той падзеў сваю шпагу.

— Шпагу? — перапытаў дон Хуан, які толькі цяпер заўважыў, што не трымае яе ў руках.— Не ведаю... напэўна, я яе ўпусціў.

— О неба! — закрычаў дон Гарсія.— На тронку выбіта ваша імя!

У тую хвіліну яны ўбачылі, як з суседніх дамоў выбеглі людзі з паходнямі і кінуліся да забітага. З другога канца вуліцы хутка набліжаўся гурт узброеных людзей. Гэта, пэўна, быў начны патруль, што прыбег на крыкі музыкаў і шум бойкі.

Дон Гарсія насунуў на вочы капялюш, закрыў плашчом ніжнюю частку твару, каб яго не пазналі, і кінуўся, не зважаючы на небяспеку, у гушчу людзей, спадзеючыся знайсці шпагу, якая без сумнення навяла б на след забойцы. Дон Хуан бачыў, як ён сыпаў ударамі налева і направа, гасіў ліхтары і валіў на дол усё, што траплялася яму на дарозе. Хутка ён ужо бег з усіх ног, трымаючы ў кожнай руцэ па шпазе: за ім гнаўся ўвесь патруль.

— Ах, дон Гарсія,— закрычаў дон Хуан, схапіўшы шпагу, якую той яму падаў,— я вам так удзячны!

— Уцякайце! Уцякайце! — закрычаў Гарсія.— Бяжыце за мной, і калі нехта з гэтых ёлупаў будзе наступаць вам на пяты, торкніце яму, як таму кавалеру.

І яны пабеглі так хутка, як дазваляла іх маладая сіла, падвоеная страхам перад панам карэхідорам, які да студэнтаў быў суровейшы, чым да зладзеяў.

Дон Гарсія, які ведаў Саламанку, як *Deus det*[1], з незвычайным спрытам зварочваў у бакавыя вулкі, кідаўся ў вузкія прысады, тым часам як яго менш дасведчаны таварыш з вялікай цяжкасцю за ім паспяваў. Іх пачала ўжо брацьза-

[1] Хай Бог пашле (нам свой спакой) *(лац.)* — пачатак каталіцкай малітвы.

3 — 2798

дышка, калі раптам на адной вуліцы яны сустрэлі гурт студэнтаў, што гулялі і спявалі пад гітару. Як толькі студэнты ўбачылі, што за двума іх таварышамі гоніцца патруль, яны пабралі ў рукі каменне, кіі і ўсё, што было пад рукою. Задыханыя патрульныя палічылі недарэчным распачынаць сварку і абачліва адступілі, а два злачынцы зайшлі ў бліжэйшую царкву, каб схавацца і трошкі адпачыць.

Перад уваходам дон Хуан хацеў укласці шпагу ў ножны, лічачы, што будзе недарэчна і няварта хрысціяніна зайсці ў дом Божы са зброяй у руках. Але шпага не пралезла ў ножны, як ён ні цiснуў, і дон Хуан зразумеў, што гэта была не яго шпага. Дон Гарсія схапіў спаспеху першую, што яму трапілася, шпагу, якая, відаць, належала забітаму ці некаму з памагатых. Справы былі кепскія, дон Хуан сказаў пра гэта свайму сябру, на якога ён прывык глядзець як на дарадцу.

Дон Гарсія насупіў бровы, закусіў губу, выгнуў палі капелюша і пачаў хадзіць туды-сюды, тым часам як дона Хуана, збітага з тропу жахлівым адкрыццём, апанавала трывога і пакуты сумлення. Паразважаўшы чвэрць гадзіны, дон Гарсія, якому хапіла прыстойнасці ні разу не спытацца: «Нашто вы згубілі вашу шпагу?», узяў дона Хуана за руку і сказаў:

— Хадземце са мной, я ведаю, што рабіць.

У гэты момант з сакрыстыі выйшаў святар і ўжо збіраўся пайсці, але дон Гарсія прыпыніў яго.

— Я маю гонар гаварыць з вучоным ліцэнцыятам Гомэсам, ці не так? — спытаўся ён, адмахнуўшы глыбокі паклон.

— Я яшчэ не ліцэнцыят,— адказаў святар, відавочна ўлешчаны, што яго палічылі за ліцэнцыята.— Мяне завуць Мануэль Тардоя, да вашых паслугаў.

— Ойча,— сказаў дон Гарсія,— вы якраз той, з кім я вельмі хацеў пагаварыць. Гаворка ідзе пра справы сумлення, а вы, калі верыць чуткам, якраз і ёсць аўтар славутага трактата *De casibus conscientiae*[1], які нарабіў столькі шуму ў Мадрыдзе?

Святар, аддаючыся граху пыхлівасці, прамармытаў, што ён хоць і не аўтар гэтай кнігі (якой, праўду кажучы, увогуле не існавала), але шмат займаўся падобнымі пытаннямі. Дон Гарсія, які меў прычыны не прыслухоўвацца да гэтых тлумачэнняў, працягваў:

— Вось, мой ойча, у двух словах справа, аб якой я хацеў з вамі параіцца. Сёння, менш за гадзіну назад, аднаго

---

[1] Пра справы сумлення *(лац.)*.

майго сябра пераняў на вуліцы нейкі чалавек і сказаў: «Кавалер, зараз за два крокі адсюль я буду біцца, а ў майго супрацiўніка шпага даўжэйшая за маю. Ці не пазычыце мне вашую, каб зброя была аднолькавая?» І мой сябар памяняўся з ім шпагаю. Ён пачакаў на рагу вуліцы, пакуль скончыцца справа. Калі звон шпагаў сціх, ён падышоў. І што ж ён бачыць? Ляжыць чалавек, праткнуты шпагай, якую ён толькі што пазычыў незнаёмаму. З таго часу ён у роспачы, ён папракае сябе за сваю зычлівасць, ён баіцца, што ўчыніў смяротны грэх. Я спрабую яго супакоіць, я лічу, што гэты грэх даравальны, бо калі б ён не пазычыў шпагі, ён спрычыніўся б да таго, што людзі біліся б няроўнай зброяй. Што вы пра гэта скажаце, ойча? Ці згодныя вы са мною?

Святар, казуіст-пачатковец, уважліва выслухаў гісторыю і нейкі час цёр сабе лоб, як чалавек, які ніяк не можа згадаць патрэбную цытату. Дон Хуан не разумеў, куды вядзе дон Гарсія, але маўчаў, баючыся сказаць нешта недарэчнае.

— Ойча,— прадаўжаў Гарсія.— Відаць, справа сапраўды складаная, калі нават такі вялікі вучоны, як вы, не можа яе вырашыць. Калі вы дазволіце, мы прыйдзем заўтра, каб пачуць вашыя меркаванні. А пакуль ■ вас прашу, адгаварыце самі або закажыце, калі ласка, пару імшаў за душу памерлага.

Сказаўшы гэта, ён уклаў у руку святару два ці тры дукаты, і гэта канчаткова прыхіліла яго да гэтых маладых людзей, такіх пабожных, такіх сумленных і, галоўнае, такіх шчодрых. Ён запэўніў іх, што заўтра на тым самым месцы ён перадасць ім сваё заключэнне, выкладзенае пісьмова. Дон Гарсія шчодра сыпаў падзякамі, а пасля дадаў вольным тонам, нібы нейкую нязначную заўвагу:

— Абы толькі суд не абвінаваціў нас у гэтым забойстве! Мы спадзяемся, што вы дапаможаце пагадзіць з Богам нашыя душы.

— Што да суддзяў,— адказаў святар,— дык вам няма чаго баяцца. Бо ваш сябар, калі ён толькі пазычыў сваю шпагу, паводле закону, зусім не лічыцца супольнікам.

— Так, мой ойча, але забойца ўцёк. Пачнуць разглядаць рану, можа, нават знойдуць залітую крывёй шпагу... хто ж ведае? Гэтыя судоўцы, кажуць, страшныя людзі.

— Але вы былі сведкам, што ваш сябар пазычыў шпагу? — запытаўся святар.

— Ну вядома ж,— запэўніў дон Гарсія.— Я засведчыў бы гэта перад любым судом у каралеўстве. Дый вы, мой

ойча,— дадаў ён як мага больш лісліва,— і вы б маглі пацвердзіць праўду. Мы звярнуліся да вас задоўга да таго, як пра гэтую справу будзе вядома, каб спытацца вашай духоўнай парады. Вы б маглі нават засведчыць абмен шпагамі... Вось вам доказ,— ён узяў шпагу ў дона Хуана.— Паглядзіце-тка на гэтую шпагу, бачыце, яна нават не ўлазіць у ножны!

Святар кіўнуў галавою, перакана        ны ў праўдзівасці гісторыі. Ён моўчкі ўзважваў рукою дукаты і бачыў у іх неабвержны аргумент на карысць гэтых двух маладых хлопцаў.

— А ўрэшце, мой ойча,— сказаў дон Гарсія пабожным тонам,— што нам людскі суд? Мы хочам апраўдацца перад судом нябесным.

— Да заўтрага, дзеці мае,— сказаў святар на развітанне.

— Да заўтрага,— адказаў дон Гарсія,— цалуем вашы рукі і разлічваем на вас.

Як толькі святар пайшоў, дон Гарсія аж падскочыў ад радасці.

— Няхай жыве святакупства! — закрычаў ён.— Цяпер, спадзяюся, нам нічога не пагражае. Калі вамі зацікавіцца суд, дык гэты святы айцец за тыя дукаты, што ён атрымаў і што яшчэ спадзяецца з нас выцягнуць, засведчыць, што мы маем не большае дачыненне да забітага вамі сеньёра, чым бязвінныя немаўляты. Ідзіце да сябе, будзьце напагатове і адчыняйце дзверы толькі самым надзейным знаёмым. А я пабегаю па горадзе, паслухаю, што там кажуць.

Вярнуўшыся дадому, дон Хуан не распранаючыся кінуўся ў ложак. Ён не спаў усю ноч, з галавы не ішло толькі што ўчыненае забойства, а асабліва магчымыя яго вынікі. Кожнага разу, чуючы з вуліцы нечыя крокі, ён уяўляў сабе, што яго прыйшлі арыштоўваць. Аднак стома ўзяла сваё, дый галава была яшчэ цяжкая пасля студэнцкага абеду, і ён заснуў на світанку.

Праспаўшы пару гадзін, ён быў абуджаны сваім слугою, які паведаміў, што з ім хоча пагаварыць нейкая пані з закрытым тварам. У той самы момант у пакой увайшла жанчына. З ног да галавы яна была захінутая шырокім чорным плашчом, з-пад якога выглядала толькі адно вока. Яна паглядзела гэтым вокам спачатку на слугу, пасля на дона Хуана, быццам кажучы, што хоча пагаварыць сам-насам. Слуга адразу выйшаў. Пані села, пільна паглядзеўшы на дона Хуана адзіным непрыкрытым вокам. Крыху памаўчаўшы, яна пачала так:

— Сеньёр кавалер, мой учынак, мабыць, здасца вам дзіўным, і вы можаце падумаць пра мяне што благое, але калі б вы ведалі, што́ мяне сюды прывяло, вы б мяне не ганілі. Учора вы пабіліся з адным тутэйшым кавалерам...

— Я? — закрычаў збялелы дон Хуан.— Але, шаноўная пані, я не выходзіў з гэтага пакоя...

— Не спрабуйце мне зманіць, я дам вам прыклад шчырасці.

Сказаўшы гэта, яна адхінула плашч, і дон Хуан пазнаў донью Тэрэсу.

— Сеньёр дон Хуан,— працягвала яна, чырванеючы,— я мушу вам прызнацца, што я захапляюся вашай адвагай. Нягледзячы на маё замяшанне, я ўбачыла, што ў вас зламалася шпага і што вы кінулі яе каля нашых дзвярэй. Калі ўсе завіхаліся вакол параненага, я спусцілася і падабрала тронак гэтай шпагі. Разгледзеўшы яе, я ўбачыла вашае імя і зразумела, якая б вам пагражала небяспека, калі б шпага трапіла ў рукі вашых ворагаў. Вось яна. Я вельмі радая, што маю шчасце вам яе аддаць.

Як і трэба было чакаць, дон Хуан укленчыў перад жанчынай, сказаў, што ён абавязаны ёй жыццём, але што яго гэты дарунак не ўратаваў, бо цяпер ён памрэ ад кахання. Донья Тэрэса вельмі спяшалася і хацела адразу ж пайсці. Але ёй было так прыемна слухаць дона Хуана, што яна не магла наважыцца яго спыніць. Так мінула каля гадзіны — не бракавала клятваў у вечным каханні, пацалункаў у ручкі, настойлівых просьбаў з аднаго боку і нерашучых адмоваў з другога. Раптам увайшоў дон Гарсія і перапыніў іх прыемную гутарку. Ён, зрэшты, зусім не збянтэжыўся і першнаперш супакоіў Тэрэсу. Пасля ён доўга хваліў яе адвагу і вытрымку і ўрэшце папрасіў яе пахадайнічаць перад сястрой аб большай да яго спагадлівасці. Донья Тэрэса паабяцала зрабіць усё, што ён просіць, шчыльна абкруцілася плашчом і пайшла, паабяцаўшы тым самым вечарам паказацца са сваёй сястрой на бульвары ў дамоўленым месцы.

— Справы ідуць добра,— сказаў дон Гарсія, як толькі яны засталіся адны.— На вас ніхто не думае. Карэхідор, які не зычыць мне нічога добрага, спачатку зрабіў мне гонар, згадаўшы пра маю асобу. Ён быў перакананы, што дона Крыставаля забіў я. І ведаеце, чаму ён перадумаў? Нехта яму сказаў, што я ўвесь вечар быў з вамі, а ў вас, даражэнькі, такая вялікая рэпутацыя, што яе хапіла б на некалькі чалавек. Што б там ні было, нас ніхто не падазрае. А дзякуючы падарунку гэтай міленькай Тэрэсы мы можам

быць спакойныя за будучыню. Дык жа забудземся на ўсё гэта і будзем думаць толькі пра вясёлае.

— Ах, Гарсія,— тужліва ўздыхнуў дон Хуан,— смутная рэч — забіць свайго бліжняга!

— Ёсць і смутнейшая,— адказаў дон Гарсія,— калі твой бліжні заб'е цябе. Ёсць яшчэ і трэцяя рэч, смутнейшая за гэтыя дзве — гэта пражыць дзень без абеду. І таму я запрашаю вас сёння паабедаць у добрай кампаніі, дзе ўсе будуць вельмі радыя вас бачыць.

Сказаўшы гэта, ён выйшаў.

Каханне ўжо было прыглушыла пакуты сумлення нашага героя. Пыхлівая гордасць канчаткова выціснула іх з душы дона Хуана. Студэнты, з якімі ён абедаў у Гарсіі, даведаліся ад гаспадара, хто быў сапраўдны забойца дона Крыставаля. Гэты Крыставаль быў кавалер, што славіўся сваім спрытам і адвагай, яго баяліся нават студэнты. І таму яго смерць толькі дадала весялосці застольнікам, і шчаслівы супернік забітага быў адораны безліччу віншаванняў. Як паслухаць іх — дык ён быў гонар, краса і апірышча універсітэта. Усе заўзята пілі за яго здароўе, а адзін студэнт з Мурсіі склаў экспромтам санет у ягоны гонар, параўнаўшы яго з Сідам і Бернардам дэль Карпіо. Устаўшы з-за стала, дон Хуан яшчэ адчуваў нейкі цяжар на сэрцы, але калі б ён нават меў чароўную здольнасць уваскрэсіць дона Крыставаля, дык наўрад ці ён гэтым скарыстаўся б — каб не страціць рэпутацыі і павагі, якія прынесла яму гэтае забойства ў вачах усяго саламанкскага універсітэта.

Калі настаў вечар, абодва бакі без спазнення прыйшлі на спатканне на беразе Тормэса. Донья Тэрэса ўзяла за руку дона Хуана (тады яшчэ не браліся пад руку), а доньяФаўста — дона Гарсію. Прайшоўшы колькі разоў у адзін і другі бок, абедзве пары расталіся вельмі задаволеныя, паабяцаўшы не абмінаць ніводнае нагоды сустрэцца зноў.

Развітаўшыся з сёстрамі, яны напаткалі цыганак, якія танчылі з бубнамі ў гурце студэнтаў. Яны далучыліся да кампаніі. Танцоркі спадабаліся дону Гарсію, і ён вырашыў запрасіць іх на вячэру. Цыганкі адразу згадзіліся. Дон Хуан, як fidus Achates[1], таксама да іх далучыўся. Пакрыўджаны заўвагаю аднае цыганкі, быццам ён падобны да маладзенькага манаха, ён пастараўся зрабіць што толькі мог, каб давесці адваротнае: ён крычаў, скакаў, спяваў і піў адзін столькі, колькі не здолелі б выпіць і два студэнты другога года навучання.

[1] Верны Ахат *(лац.)*.

Па паўночы яго з вялікай цяжкасцю завялі дадому, ён быў удрызг п'яны і такі злы, што мерыўся падпаліць усю Саламанку, а пасля выпіць увесь Тормэс, каб не было чым тушыць пажар.

І так дон Хуан страчваў адну за адной усе дадатныя якасці, што далі яму прырода і выхаванне. За тры месяцы побыту ў Саламанцы ён пад кіраўніцтвам дона Гарсіі канчаткова спакусіў няшчасную донью Тэрэсу, а яго таварыш дамогся перамогі на восем або дзесяць дзён раней. Спачатку дон Хуан кахаў сваю выбранніцу так, як хлопец яго гадоў кахае першую жанчыну, што яму аддалася. Але дон Гарсія без цяжкасці пераканаў яго ў тым, што вернасць — вартасць няпэўная і хімерычная, тым болей што, калі ён будзе паводзіць сябе падчас студэнцкіх оргій не так, як яго таварышы, гэта можа нашкодзіць рэпутацыі самой Тэрэсы. Бо, казаў ён, толькі надзвычай палкаму і задаволенаму каханню хапае аднае жанчыны. Да таго ж кампанія, у якую трапіў дон Хуан, забірала ў яго ўвесь час, не пакідаючы ніводнай вольнай хвіліны. Ён рэдка з'яўляўся на занятках або, зняможаны начнымі гулянкамі і распустай, засынаў на вучоных лекцыях самых выдатных прафесароў. Затое на бульвар ён прыходзіў першы і адыходзіў адтуль апошні. Што ж да начэй, дык, калі донья Тэрэса не магла яго прыняць, ён праводзіў іх у шынку ці ў яшчэ горшых мясцінах.

Аднае раніцы ён атрымаў ад сваёй дамы цыдулку, дзе яна паведамляла, што прызначанае на бліжэйшую ноч спатканне, на жаль, не можа адбыцца. Да іх у Саламанку прыехала старая сваячка, і яе размясцілі ў пакоі Тэрэсы, тым часам сама Тэрэса будзе начаваць у матчыным пакоі. Гэтая навіна, аднак, не надта засмуціла дона Хуана, і ён знайшоў, як прабавіць гэты вечар. Калі ён, абдумваючы свае планы, выйшаў з дому, нейкая жанчына, захінутая вуаллю, перадала яму яшчэ адну цыдулку — зноў ад доны Тэрэсы. Ёй удалося перабрацца ў іншы пакой, і яны з сястрой гатовыя да спаткання. Дон Хуан паказаў пасланне дону Гарсію. Спачатку яны ваганіся, але ўрэшце, як па завядзёнцы, звыклым ужо спосабам узлезлі на балкон сваіх каханак і засталіся на ноч.

У доны Тэрэсы на грудзях была даволі заўважная радзімка. Дону Хуану быў удзелены вялікі гонар, калі яму было дазволена ўпершыню на яе паглядзець. Нейкі час ён лічыў гэтую радзімку найпрыгажэйшым, што толькі ёсць на свеце. Ён параўноўваў яе то з фіялкай, то з пралескай, то з кветкаю альфальфы. Але ў хуткім часе гэты знак, які і на-

праўду быў даволі мілы, перастаў падабацца перасычанаму дону Хуану. «Вялікая чорная пляма, і ўсё,— казаў ён сам сабе і ўздыхаў.— Дый яшчэ ў такім месцы. Надта падобная да болькі. Да д'ябла гэтую радзімку!» Аднойчы ён нават спытаўся ў Тэрэсы, ці не раілася яна з лекарам, каб яе вывесці. На што бедная дзяўчына, зачырванеўшыся, як ружа, адказала, што ён — адзіны мужчына, які бачыў гэты знак, і да таго ж яе старая мамка казала, што такія радзімкі прыносяць шчасце.

У той вечар, пра які ідзе гаворка, дон Хуан, прыйшоўшы на спатканне ў даволі злым гуморы, зноў пабачыў тую няшчасную радзімку, якая здалася яму яшчэ большай, чым раней. «Да д'ябла! Яна падобная да вялікага пацука,— сказаў ён сам сабе, разглядаючы плямку.— І праўда, якая брыдота! Гэта пячатка ганьбы, як тая, якой быў пазначаны Каін. Трэба быць зусім безгаловым, каб выбраць такую жанчыну за каханку». Ён быў пануры і змрочны, як чорт, раззлаваны да апошняга. Ён сварыўся без прычыны на бедную Тэрэсу, давёў яе да слёз і на досвітку пакінуў яе нават не пацалаваўшы. Дон Гарсія, што выйшаў разам з ім, ішоў нейкі час моўчкі. Пасля раптам спыніўся і сказаў:

— Згадзіцеся, дон Хуан, што сёння ўночы мы з вамі нудзіліся. Што да мяне, дык мне гэта ўсё абрыдла, і я б з задавальненнем адаслаў маю князёўну да ўсіх д'яблаў!

— Дарма вы так,— адказаў дон Хуан.— Фаўста — цудоўнае стварэнне, яна белая, як лебедзь, і заўсёды вясёлая. І яшчэ так вас кахае! Праўда, вы вельмі шчаслівы.

— Белая? Ну і хай сабе, але без колеру, без смаку, і побач са сваёй сястрою яна выглядае, як сава побач з галубкай. Хто ўжо шчаслівы, дык гэта вы.

— Дзе ўжо там,— адказаў дон Хуан.— Малодшая і напраўду мілая, але гэта яшчэ дзіця. З ёй і не пагаворыш як след. У яе галава набіта рыцарскімі раманамі, і яна думае пра каханне чорт ведае што. Вы сабе не ўяўляеце, якая яна патрабавальная.

— Проста вы, дон Хуан, яшчэ занадта малады і не ўмееце муштраваць сваіх каханак. Жанчына, каб вы ведалі, як конь: калі вы дазволіце яму набірацца дрэнных звычак, калі вы не пераканаеце яго, што не даруеце яму ніводнага выбрыку, вы ніколі ад яго нічога не даможацеся.

— Дык вы, дон Гарсія, трымаеце вашых каханак, як коней? Ці часта вы ўжываеце бізуна, каб адвучыць іх ад выбрыкаў?

— Рэдка, бо я занадта добры. Слухайце, дон Хуан, а ці

не саступіце вы мне сваю Тэрэсу? Абяцаю, што праз два тыдні яна будзе слухмяная, як авечка. А вы бярыце сабе Фаўсту. Ці мне яшчэ што даплаціць?

— Не, я б не быў супраць,— усміхнуўся ў адказ дон Хуан,— калі б толькі згадзіліся дамы. Але донья Фаўста ніколі не захоча вас нікому саступіць. Абмен быў бы не на яе карысць.

— Вы занадта сціплы. Але ж не хвалюйцеся, учора я так яе раззлаваў, што цяпер першы стрэчны здасца ёй пасля мяне анёлам святла сярод пякельнай цемры. Ведаеце, дон Хуан,— працягваў дон Гарсія,— я гавару з вамі абсалютна сур'ёзна.

І дон Хуан засмяяўся з паважнага тону, якім яго сябар выкладаў усе гэтыя дзівосныя прапановы.

Гэтую павучальную гутарку перапыніў прыход некалькіх студэнтаў, якія надалі іх думкам іншы кірунак. Але ўвечары, калі абодва сябры сядзелі за бутэлькай мантыльскага віна, побач з якой стаяў кошык з валенсійскімі жалудамі, дон Гарсія зноў пачаў скардзіцца на сваю каханку. Ён толькі што атрымаў ліст ад Фаўсты, поўны пяшчотных słoваў і мяккіх папрокаў, між якіх праглядалася яе дасціпнасць і ўменне бачыць смешнае ў кожнай рэчы.

— Дарэчы,— сказаў дон Гарсія, падаючы ліст дону Хуану і пазяхаючы на ўвесь рот,— прачытайце гэты цудоўны твор. Сёння зноў спатканне! Але хай мяне д'ябал возьме, калі я на яго пайду.

Дон Хуан прачытаў ліст, і ён здаўся яму чароўным.

— Па праўдзе кажучы,— сказаў ён,— калі б меў такую каханку, як ваша, я б зрабіў усё, што мог, каб яна была шчаслівая.

— Ну дык бярыце яе, дружа,— закрычаў дон Гарсія,— бярыце яе і рабіце з ёй усё, што захочаце. Я перадаю вам усе правы. Ці давайце зробім яшчэ лепш,— дадаў ён і ўстаў, нібы прасветлены раптоўным натхненнем.— Давайце згуляем на нашых каханак. Вось карты. Згуляем партыю ў ломбер. Я стаўлю донью Фаўсту, а вы выкладаеце на стол донью Тэрэсу.

Дон Хуан, смеючыся да слёз з дзівацтваў свайго таварыша, узяў карты і перамяшаў іх. І, не надаючы гульні ні найменшае ўвагі, ён выйграў. Дон Гарсія, ані не засмучаны няўдачай, папрасіў пісьмовыя прылады і склаў нешта накшталт вэксаля, выпісанага на донью Фаўсту, якой загадвалася аддацца ў распараджэнне падаўцы, зусім гэтак жа, як бы ён напісаў свайму аконаму адлічыць сто дукатаў аднаму з крэдытораў.

Дон Хуан, не перастаючы смяяцца, запрапанаваў дону Гарсію згуляць яшчэ, але той адмовіўся.

— Калі ў вас ёсць хоць трошкі смеласці,— сказаў ён,— вазьміце мой плашч і ідзіце да маленькіх дзвярэй, якія вы добра ведаеце. Там будзе толькі Фаўста, бо Тэрэса вас не чакае. Ідзіце за ёй і маўчыце. Як толькі вы зойдзеце ў пакой, цалкам магчыма, што яна здзівіцца і нават выцісне адну-дзве слязіны. Але хай гэта вас не спыняе. Будзьце пэўныя, што яна не наважыцца крычаць. Тады пакажыце ёй мой ліст, скажыце, што я страшны злачынца, нягоднік, пачвара, усё, што захочаце, каб ёй захацелася адразу лёгка і зручна мне адпомсціць. І паверце, помста гэтая не здасца ёй горкай.

З кожным словам Гарсіі д'ябал усё болей завалодваў душою дона Хуана і казаў яму, што тое, што ён дагэтуль лічыў пустым жартам, можа скончыцца для яго вельмі прыемна. Ён перастаў смяяцца, і юрлівая чырвань запалымнела ў яго на твары.

— Каб толькі ведаць,— сказаў ён,— што Фаўста згодзіцца на гэты абмен...

— Ці згодзіцца яна! — закрычаў распуснік Гарсія.— Але ж вы і смаркач, мой дружа! Вы думаеце, што жанчына хоць хвіліну будзе вагацца паміж каханкам, якога яна ведае ўжо шэсць месяцаў, і тым, каго ведае толькі адзін дзень! Але нічога, заўтра вы абое яшчэ будзеце мне дзякаваць, не сумняваюся. Адзінае, што я ў вас прашу ў якасці адшкадавання за страту, гэта дазволіць мне паўпадаць за Тэрэсітай.

Пасля, убачыўшы, што дон Хуан ужо амаль згадзіўся, ён сказаў:

— Ну, смялей, бо я зусім не хачу бачыць сёння Фаўсту. Калі вы не хочаце, дык я дам гэтую цыдулку таўстуну Фадрыке, а ўжо ён не адмовіцца.

— Ат, халера з ёй! — махнуў рукою дон Хуан і ўзяў пісьмо. А каб дабраць троху смеласці, кульнуў залпам вялікую чарку мантыльскага.

Прызначаны час набліжаўся. Дон Хуан, якога яшчэ стрымлівала рэшта сумлення, піў чарку за чаркай, каб забыцца. Нарэшце прабіў гадзіннік. Дон Гарсія накінуў свой плашч на плечы дону Хуану і правёў яго да дзвярэй сваёй каханкі. Пасля, падаўшы ўмоўлены сігнал, ён пажадаў яму добрай ночы і пайшоў, зусім не раскайваючыся ў брыдкасці свайго ўчынку.

Дзверы адразу расчыніліся. Доньня Фаўста ўжо чакала.

— Гэта вы, дон Гарсія? — ціха спыталася яна.

— Я,— адказаў дон Хуан яшчэ цішэй, схаваўшы твар пад складкамі шырокага плашча.

Ён увайшоў, дзверы за ім зачыніліся, і ён пачаў падымацца па цьмяных сходах за сваёй праводніцай.

— Вазьміцеся за край мантылы,— сказала яна,— і ступайце як мага цішэй.

Неўзабаве ён апынуўся ў пакоі Фаўсты. Там цьмяна гарэла самотная лямпа. Спачатку дон Хуан, не здымаючы ні плашча, ні капелюша, стаяў каля дзвярэй, не наважваючыся адкрыцца. Донья Фаўста нейкі час моўчкі на яго глядзела, пасля раптам падышла да яго, выцягнуўшы насустрач рукі. Дон Хуан, скінуўшы ўрэшце плашч, паўтарыў яе рух.

— Як! Гэта вы, сеньёр дон Хуан? — закрычала яна.— Што з донам Гарсіям? Ён хворы?

— Хворы? Не...— адказаў дон Хуан.— Але ён не можа прыйсці. Ён прыслаў да вас мяне.

— Ах, як шкада! Але скажыце, можа, якая іншая жанчына не дала яму прыйсці?

— Дык вы, значыць, ведаеце, які ён распуснік?..

— Як мая сястра будзе радая вас бачыць! Няшчаснае дзіця! Яна думала, што вы не прыйдзеце... Я выйду яе папярэдзіць.

— Не трэба.

— Вы нейкі дзіўны... Вы прыйшлі паведаміць мне нешта непрыемнае... Скажыце, з донам Гарсіям здарылася няшчасце?

Каб пазбегнуць непрыемных тлумачэнняў, дон Хуан падаў няшчаснай дзяўчыне нягодны ліст дона Гарсіі. Яна паспешліва яго прачытала і спачатку нічога не зразумела. Пасля, перачытаўшы, не магла паверыць сваім вачам. Дон Хуан уважліва за ёй назіраў, ён бачыў, як яна то бралася за лоб, то працірала вочы, яе вусны дрыжалі, твар пакрыўся смяротнай бледнасцю, і яна мусіла трымаць ліст аберуч, каб ён не ўпаў долу. Урэшце, падняўшыся з адчайным намаганнем, яна закрычала:

— Усё гэта няпраўда! Гэта жахлівая мана! Дон Гарсія не мог гэткага напісаць!

Дон Хуан адказаў:

— Вам знаёмы яго почырк. Ён не ведаў цаны скарбу, які яму належаў... а я згадзіўся, бо кахаю вас усім сэрцам.

Яна кінула на яго позірк, поўны пагарды, і пачала ўважліва перачытваць ліст, як адвакат, які падазрае фальшаван-

не судовае справы. Яе вялікія вочы былі шырока раскрытыя і неадрыўна глядзелі на паперу. Час ад часу з нерухомых вейкаў на шчокі падалі вялікія слёзы. Раптам яна ўсміхнулася, як вар'ятка, і закрычала:

— Гэта жарт, праўда? Гэта ж проста жарт? Дон Гарсія тут, ён зараз прыйдзе!..

— Гэта зусім не жарт, донья Фаўста. Няма на свеце нічога праўдзівейшага за маё каханне да вас. Я быў бы вельмі няшчасны, калі б вы мне не паверылі.

— Нягоднік! — закрычала донья Фаўста.— Але калі ты кажаш праўду, дык ты яшчэ большы нягоднік, чым дон Гарсія.

— Каханню прабачаецца ўсё, мілая Фаўста. Дон Гарсія кінуў вас. Дык вазьміце ж мяне, каб суцешыцца. Вось на карціне Бахус і Арыядна, дазвольце ж мне быць вашым Бахусам.

Не кажучы ні слова, яна схапіла са стала нож і, узняўшы яго над галавою, кінулася на дона Хуана. Але той паспеў заўважыць яе рух, схапіў яе за руку і без цяжкасці яе абяззброіў. Адчуваючы за сабой права пакараць яе за такі непрыхільны прыём, ён тры ці чатыры разы яе пацалаваў і пацягнуў яе да невялічкага ложка. Донья Фаўста была слабая і кволая жанчына, але гнеў дадаў ёй сілы, і яна працівілася дону Хуану то чапляючыся за мэблю, то абараняючыся рукамі, нагамі і зубамі. Спачатку дон Хуан адказваў на яе ўдары ўсмешкай, але хутка гнеў у ім пачаў перамагаць каханне. Ён моцна сціснуў Фаўсту ў абдымках, не баючыся папсаваць яе далікатную скуру. Гэта быў раз'юшаваны барацьбіт, які хацеў любой цаною перамагчы свайго суперніка, гатовы, калі спатрэбіцца, задушыць яго, каб толькі перамагчы. І тады Фаўста звярнулася да апошняга сродку, які ёй заставаўся. Дагэтуль жаночы сорам не дазваляў ёй паклікаць на дапамогу, але бачачы, што злачынца перамагае, яна закрычала на ўвесь дом.

Дон Хуан адчуў, што яму ўжо не ўдасца авалодаць сваёй ахвярай і што цяпер ён мусіў найперш думаць пра ўласны ратунак. Ён хацеў адштурхнуць Фаўсту і кінуцца да дзвярэй, але яна так учапілася за яго вопратку, што ён ніяк не мог ад яе адбіцца. Тым часам у доме ўжо чулася пагрозлівае ляскание дзвярэй. Мужчынскія крокі і галасы набліжаліся, нельга было губляць ні хвіліны. Ён яшчэ раз намогся адштурхнуць ад сябе донью Фаўсту, але яна з такой сілаю трымала яго за камізэльку, што ён толькі крутнуўся вакол сябе разам з ёю, нічым не палепшыўшы

свайго становішча. Фаўста якраз стаяла каля дзвярэй, што вялі ўнутр дома. Яна ўсё крычала і крычала... У гэтую хвілю дзверы расчыніліся, і ў іх з'явіўся чалавек з рушніцай у руцэ. Пачуўся здзіўлены вокліч, а за ім грымнуў стрэл. Лямпа згасла, і дон Хуан адчуў, што рукі доньі Фаўсты расціскаюцца, а па яго руках цячэ нешта цёплае. Яна ўпала, ці, хутчэй, з'ехала на падлогу, куля перабіла ёй хрыбет: бацька замест гвалтаўніка забіў сваю дачку. Дон Хуан, адчуўшы сябе свабодным, кінуўся да сходаў праз парахавы дым. Бацька паспеў ударыць яго прыкладам, а лёкай, што пабег за ім, здолеў тыцнуць яго шпагай, але гэта не зрабіла яму ніякае шкоды. Схапіўшы сваю шпагу, ён паспрабаваў прабіць сабе дарогу і патушыць паходню, што трымаў лёкай. Напалоханы рашучым выглядам дона Хуана, той адступіў. Што да дона Альфонса дэ Охэда, чалавека гарачага і бясстрашнага, дык ён не вагаючыся рушыў на дона Хуана. Той адбіў пару выпадаў, збіраючыся, вядома ж, толькі абараняцца. Але, як спрактыкаваны фехтавальнік, ён, адбіўшы ўдар, міжвольна і машынальна сам зрабіў нападны рух. І праз хвіліну бацька доньі Фаўсты глыбока ўздыхнуў і ўпаў смяротна паранены. Дон Хуан, убачыўшы, што праход свабодны, кінуўся маланкаю да сходаў, адтуль да дзвярэй, і праз імгненне ён ужо быў на вуліцы. Пагоні за ім не было, бо ўсе слугі завіхаліся вакол забітага гаспадара. Донья Тэрэса, якая прыбегла на стрэл рушніцы, убачыла гэтае страшнае відовішча і ўпала непрытомная побач з бацькам. Яна ведала яшчэ толькі палову свайго няшчасця.

Дон Гарсія дапіваў апошнюю бутэльку мантыльскага віна, калі дон Хуан бледны, запэцканы крывёю, з шалёным позіркам, у парванай камізэльцы і з каўняром, што тырчаў на далонь вышэй, чым трэба, паспешліва ўвайшоў у пакой і зваліўся ў задышцы ў фатэль, не могучы вымавіць ні слова. Дон Гарсія ўмомант зразумеў, што адбылося нешта сур'ёзнае. Ён даў дону Хуану трохі перадыхнуць і спытаўся пра падрабязнасці. Пару словаў — і ён усё зразумеў. Дон Гарсія, як звычайна спакойны і абыякавы да ўсяго, выслухаў, не міргнуўшы вокам, урывісты расказ свайго сябра. Пасля ён наліў чарку віна і падаў яму, сказаўшы:

— Выпіце, вам гэта будзе зараз вельмі дарэчы. Кепскія справы,— дадаў ён, выпіўшы сваю чарку.— Забіць бацьку — гэта ўжо не жарты... Праўда, прыкладаў такіх шмат было і раней, пачынаючы хоць бы з Сіда. Аднак у адрозненне ад яго з вамі няма цяпер пяціста сваякоў,

убраных у белае, каб абараніцца ад стражнікаў Саламанкі і блізкіх людзей забітага... Але пагаворым спачатку пра самае важнае...

Ён прайшоўся два ці тры разы па пакоі, быццам збіраючыся з думкамі, і пасля сказаў:

— Заставацца ў Саламанцы пасля такога скандалу было б вар'яцтвам. Усё ж дон Альфонса дэ Охэда — не нейкі там аднадворак, дый слугі, напэўна, вас пазналі. Дапусцім на хвіліну, што вас не пазналі; але ж у вас цяпер ва універсітэце такая зайздросная рэпутацыя, што вам адразу прыпішуць гэтае ананімнае злачынства. Паверце мне, трэба ехаць, і чым раней, тым лепей. Вы тут зрабіліся ўтрая больш вучоным, чым належыць двараніну з прыстойнага роду. Пакіньце Мінерву і паспрабуйце паслужыць Марсу, гэта ў вас атрымаецца лепш — з вашымі здольнасцямі. У Фландрыі цяпер вайна. Паедземце біць ерэтыкоў — няма нічога больш прыдатнага, каб адкупіць нашы маленькія грахі ў гэтым свеце. Аман! — канчаю, як у малітве.

Слова «Фландрыя» прагучала для дона Хуана ратункам. Яму здавалася, што, пакінуўшы Іспанію, ён уцячэ ад самога сябе. Сярод нягод і небяспек ваеннага жыцця яму не застанецца часу на пакуты сумлення!

— У Фландрыю! У Фландрыю! — закрычаў ён.— Едзем шукаць смерці ў Фландрыю.

— Ад Саламанкі да Бруселя далёка,— сур'ёзна адказаў дон Гарсія,— а ў вашым становішчы трэба спяшацца. Уявіце, што вы трапіце ў лапы пану карэхідору, і тады вам нідзе болей не прыйдзецца ваяваць, калі толькі не на галерах Яго Вялікасці.

Параіўшыся пару хвілін са сваім сябрам, дон Хуан хуценька скінуў свае студэнцкія ўборы. Ён надзеў вышываную скураную куртку, якую насілі тады вайскоўцы, і вялікі капялюш, не забыўшы напоўніць пояс залатымі дублонамі, колькі дон Гарсія мог яму даць. Усе гэтыя прыгатаванні занялі некалькі хвілін. Ён рушыў у дарогу пешкі, выйшаў з горада непазнаны, ішоў усю ноч і ўсю наступную раніцу, пакуль пякучае сонца не змусіла яго спыніцца. У першым горадзе, куды ён прыйшоў, ён купіў сабе каня і, далучыўшыся да падарожнага каравана, без перашкодаў дабраўся да Сарагосы. Там ён пражыў некалькі дзён пад імем дона Хуана Караска. Дон Гарсія, які пакінуў Саламанку на другі дзень пасля яго адыходу, пайшоў іншай дарогай і дагнаў яго ў Сарагосе. Яны не бавіліся там доўга. Паспешліва памаліўшыся Піларскай Божай маці, паспеўшы, аднак,

падчас малітвы пакасавурыцца на арагонскіх прыгажунь, яны, узяўшы кожны надзейнага слугу, выправіліся ў Барселону, дзе селі на карабель, які ішоў у Чывіта-Векію. Стома, марская хвароба, новыя мясціны і прыродная легкадумнасць дона Хуана — усё гэта разам прымусіла яго забыцца на жахлівыя карціны, што ён цяпер пакідаў за сабою. На некалькі месяцаў салодкія забавы, якія абодва сябры знайшлі ў Італіі, зацьмілі ім галоўную мэту падарожжа. Але грошы выйшлі, і яны далучыліся да кампаніі сваіх суайчыннікаў, гэткіх жа адважных і бедных на грошы, як і яны, і накіраваліся ў бок Германіі.

Прыехаўшы ў Брусель, кожны з іх запісаўся ў роту да таго капітана, які каму спадабаўся. Абодва сябры захацелі прайсці жаўнерскі хрост у роце капітана дона Мануэля Гамарэ, бо, па-першае, ён быў андалусіец, а па-другое — як казалі, не патрабаваў ад сваіх салдатаў нічога, апроч смеласці і добра дагледжанай зброі,і не быў занадта суровы ў пытаннях дысцыпліны.

Вельмі задаволены іх выглядам і манерамі, капітан паставіўся да іх добра і знайшоў ім занятак, што быў ім да густу — пасылаў іх у самыя небяспечныя выправы. Лёс ім спагадаў, і там, дзе багата іх таварышаў напаткала смерць, яны не атрымалі ані драпінкі і трапілі на вочы генералам. Абодва яны ў адзін дзень атрымалі афіцэрскі чын. З гэтай хвіліны, упэўненыя ў павазе і прыхільнасці сваіх начальнікаў, яны назвалі свае сапраўдныя імёны і вярнуліся да свайго звычайнага ладу жыцця — цэлы дзень пілі або гулялі ў карты, а ўначы спявалі серэнады найпрыгажэйшым жанчынам тых гарадоў, дзе яны стаялі на зімовых кватэрах. Яны атрымалі ад бацькоў прабачэнне, што мала іх кранула, і акрэдытывы, выпісаныя на антверпенскія банкі. Яны знайшлі грошам добры ўжытак. Маладыя, багатыя, адважныя і вынаходлівыя, яны перамагалі часта і хутка. Не буду спыняцца падрабязна на гэтых перамогах, чытачу будзе дастаткова даведацца, што, убачыўшы прыгожую жанчыну, яны імкнуліся дамагчыся яе, не выбіраючы сродкаў. Абяцанні і клятвы былі для гэтых нікчэмных распуснікаў адно гульнёй, а калі нечыя браты або мужы спрабавалі ім запярэчыць, дык яны мелі напагатове свае лёткія шпагі і бязлітасныя сэрцы.

З надыходам вясны вайна распачалася зноў.

У адной няўдалай для іспанцаў бітве капітан Гамарэ быў смяротна паранены. Дон Хуан, убачыўшы, як той упаў, падбег да яго і паклікаў салдатаў, каб яго перанесці, але

адважны капітан, сабраўшы рэшту сілы, сказаў яму:

— Дайце мне памерці тут, чую, што прыйшоў мой канец. Якая розніца — памру я тут або трохі далей. Беражыце салдатаў, ім давядзецца папрацаваць, бо вунь я бачу, ідуць галандцы, і нямала. Хлопцы,— дадаў ён, павярнуўшыся да салдатаў, што яго абступілі,— гуртуйцеся вакол сцягоў і не турбуйцеся за мяне.

У гэты момант з'явіўся дон Гарсія і спытаўся ў капітана, ці не мае ён якога жадання, каб выканаць яго пасля смерці.

— Якое, да д'ябла, жаданне ў такі момант?..

Але хвіліну падумаўшы, ён сказаў:

— Я ніколі не думаў пра смерць і не спадзяваўся, што яна прыйдзе так хутка... Я быў бы не супраць пабачыць зараз святара... Але ўсе нашы манахі цяпер у абозе... А ўсё ж цяжка паміраць без споведзі!

— Вось мой малітоўнік,— сказаў дон Гарсія, падаючы пляшку з віном.— Выпіце для смеласці.

Вочы ў старога ваякі згасалі. Ён ужо не пачуў жарту дона Гарсіі, але старыя салдаты, што стаялі навокал, абурыліся.

— Дон Хуан,— сказаў паранены,— падыдзіце бліжэй, мой сыне. Вы будзеце маім спадкаемцам. Вазьміце гэты капшук, у ім — усё, што я маю. Хай ён лепш застанецца вам, чым тым недавяркам. Адзінае, пра што я вас папрашу,— закажыце некалькі імшаў за спачын маёй душы.

Дон Хуан паабяцаў і пацісну старому руку, тым часам як дон Гарсія шэптам яму тлумачыў, якая розніца паміж тым, пра што думае чалавек перад смерцю, і тым, чым занята яго галава, калі ён сядзіць за сталом, застаўленым бутэлькамі. Некалькі куляў прасвісцела ў іх над вухам, што азначала набліжэнне галандцаў. Салдаты занялі свае месцы. Кожны паспешліва развітаўся з капітанам Гамарэ, і цяпер усе думалі адно пра тое, каб суладна адступіць. Зрабіць гэта было цяжка, бо ворагаў было шмат, дарогу размыла дажджамі, а салдаты былі змардаваныя доўгім пераходам. Аднак галандцы не здолелі іх дагнаць і спынілі пагоню ўночы, не захапіўшы сцяга і не ўзяўшы ў палон нікога, апрача параненых.

Увечары абодва сябры сядзелі ў намёце з іншымі афіцэрамі і абмяркоўвалі бой, у якім ім давялося ўдзельнічаць. Яны ганілі дзеянні камандавання і выказвалі свае думкі, што і як трэба было рабіць. Пасля загаварылі пра забітых і параненых.

— Што да капітана Гамарэ,— сказаў дон Хуан,— я доў-

га буду тужыць па ім. Гэта быў адважны афіцэр, добры таварыш, сапраўдны бацька салдатам.

— Так,— згадзіўся дон Гарсія.— Але я, прызнацца, надта здзівіўся, убачыўшы, як ён засмучаецца, што побач няма ніводнай чорнай сутаны. Усё гэта гаворыць пра адно: лягчэй быць смелым на словах, чым на справе. Хто насміхаецца з далёкай небяспекі, той бялее ад страху, калі яна набліжаецца. Дарэчы, дон Хуан, вы ж ягоны спадкаемца, дык скажыце, што ў тым капшуку, які ён вам пакінуў?

Тады дон Хуан упершыню развязаў капшук і ўбачыў у ім каля пяцідзесяці залатых манет.

— Калі мы цяпер такія багатыя,— сказаў дон Гарсія, які меў звычку глядзець на сяброўскія грошы, як на свае ўласныя,— дык чаму нам не згуляць партыю ў фараона замест таго, каб хліпаць носам, згадваючы забітых сяброў?

Прапанова ўсім была да густу, аднекуль прынеслі пару барабанаў і накрылі іх плашчом. Стол пад гульню быў гатовы. Дон Хуан гуляў першы, дон Гарсія быў за дарадцу. Але перш чым паставіць на банк, ён дастаў дзесяць манет, загарнуў іх у хустку і паклаў у кішэню.

— На якую халеру вы гэта зрабілі? — спытаўся дон Гарсія.— Салдат адкладае грошы! Ды яшчэ перад боем!

— Вы ж ведаеце, дон Гарсія, што тут не ўсе грошы мае. Дон Мануэль перадаў мне спадчыну *sub poenae nomine*[1], як мы казалі ў Саламанцы.

— Але ж і марнатравец, халера на яго! — закрычаў дон Гарсія.— Напэўна, каб мяне д'яблы знеслі, ён збіраецца аддаць гэтыя дзесяць экю першаму стрэчнаму святару!

— А чаму не? Я ж паабяцаў.

— Маўчыце, у імя Магаметавай барады! Мне сорамна за вас, я вас не пазнаю.

Гульня пачалася. Спачатку яна ішла з пераменным поспехам, а пасля ўдача рашуча адвярнулася ад дона Хуана. Тады, каб паспрабаваць шчасця, за карты ўзяўся дон Гарсія, але марна: праз гадзіну ўсе грошы, што яны мелі, і таксама пяцьдзесят экю капітана Гамарэ перайшлі ў рукі банкіра. Дон Хуан сабраўся пайсці спаць, але дон Гарсія распаліўся і замануўся вярнуць усё, што ён прайграў.

— Ну, пане Разумнік,— сказаў ён,— дзе там вашыя апошнія экю, што вы так далёка схавалі. Я ўпэўнены, што яны прынясуць нам шчасце.

— Дон Гарсія, не забывайцеся на маё абяцанне!..

---

[1] Умоўна, пад абавязкам *(лац.)*.

— Ну, але ж вы і дзіця! Зараз толькі пра імшу і думаць! Ды капітан, каб ён быў тут, хутчэй абрабаваў бы царкву, чым прапусціў гульню, не паставіўшы на банк.

— Вось вам пяць экю,— сказаў дон Хуан.— Не стаўце ўсе адразу.

— Не бойцеся! — сказаў дон Гарсія і паставіў усе пяць экю на караля. Ён выйграў, паставіў удвая і прайграў.— Ану, дзе астатнія грошы,— закрычаў ён, бялеючы ад злосці.

Дон Хуан спрабаваў запярэчыць, але ўрэшце здаўся і аддаў чатыры экю, якія адразу ж пайшлі за папярэднімі. Дон Гарсія падскочыў ад злосці і шпурнуў карты ў твар банкіру, пасля сказаў дону Хуану:

— Вам заўсёды шанцавала, да таго ж я чуў, што апошняя манета мае чароўную сілу і можа змяніць лёс.

Дон Хуан быў цяпер раззлаваны не менш за свайго сябра, ён не думаў ужо ні пра імшу, ні пра сваё абяцанне. Ён паставіў на туза свой апошні экю і ўмомант яго прайграў.

— Да д'ябла душу капітана Гамарэ! — закрычаў ён.— Яго грошы зачараваныя!..

Банкір спытаўся, ці будуць яны яшчэ гуляць, але грошай у іх болей не было, а людзям, якія штодня рызыкуюць жыццём, ніхто б не пазычыў ні шэлега, і таму яны мусілі пакінуць гульню і шукаць суцяшэння пры чарцы. Пра душу няшчаснага капітана было незваротна забыта.

Праз колькі дзён іспанцы, дачакаўшыся падмацавання, зноў перайшлі ў наступ і пасунуліся наперад. Яны праходзілі праз мясціны нядаўняе бітвы. Забітыя ўсё яшчэ ляжалі непахаваныя. Дон Гарсія і дон Хуан падганялі коней, каб хутчэй прамінуць мерцвякоў, каб не бачыць іх страшных твараў і не чуць агіднага смуроду. Але раптам салдат, што ехаў наперадзе, нема закрычаў, убачыўшы ў равочку нежывое цела. Яны пад'ехалі бліжэй і пазналі капітана Гамарэ. Аднак твар яго быў страшна знявечаны. Рысы твару, скрыўленыя і застылыя ў страшным курчы, гаварылі пра тое, што яго апошнія хвіліны прайшлі ў невыносных пакутах. Хоць і прывыклы да такіх відовішчаў, дон Хуан здрыгануўся, убачыўшы нябожчыка, чые згаслыя, залітыя крывёю вочы, здавалася, з пагрозай глядзелі на яго. Ён прыгадаў апошнюю просьбу няшчаснага капітана і тое, як ён не паклапаціўся яе выканаць. Аднак удаваная суровасць, якою ён здолеў запоўніць сваю душу, хутка прыгасіла ў ім пакуты сумлення, і ён не марудзячы загадаў выкапаць магілу і пахаваць у ёй капітана. Манах-капуцын, які выпадкова ака-

заўся побач, паспешліва адгаварыў пару пацераў. Нябожчыка, пакропленага свянцонай вадою, засыпалі каменнем і зямлёй, і салдаты паехалі далей, але ўжо цішэй, чым звычайна. Аднак дон Хуан убачыў, як адзін аркабузнік, доўга шукаючы ў кішэнях, дастаў адтуль урэшце залатую манету і падаў яе манаху, сказаўшы:

— Вось, калі ласка, на імшы па капітане Гамарэ.

Таго дня дон Хуан праявіў незвычайную адвагу і ішоў пад варожы агонь з такой неабачлівасцю, быццам шукаў смерці.

— Грошы скончыліся, дык ён і не баіцца,— казалі таварышы.

Неўзабаве пасля смерці капітана Гамарэ ў роту, дзе служылі дон Хуан і дон Гарсія, запісаўся рэкрутам малады салдат. Ён выглядаў рашучым і адважным, але характар меў скрытны і таямнічы. Ніхто не бачыў, каб ён калі піў або гуляў з таварышамі. Цэлымі гадзінамі ён сядзеў у вартоўні і назіраў за мухамі або пстрыкаў спускавым кручком свайго аркабуза. Салдаты, што кпілі з яго ціхмянасці, далі яму мянушку «Мадэста»[1]. Пад гэтым імем яго і ведалі ў роце, і нават яго начальнікі не называлі яго іначай.

Паход скончыўся аблогай Бэрг-оп-Зума, якая, як вядома, сталася самай крывавай падзеяй гэтае вайны, бо абложаныя абараняліся з адчайдушнай зацятасцю. Аднае ночы абодва сябры разам неслі варту ў траншэі, так блізкай да муроў крэпасці, што гэтае месца было ці не самае небяспечнае. Абложаныя выступалі даволі часта, стралялі густа і цалка.

Першая палова ночы мінулася ў няспынных трывогах. Пасля аблóжнікі і абложаныя, здаецца, паддаліся стоме. Страляніна з абодвух бакоў сунялася, і на ўсёй раўніне запанавала глыбокая ціша, парушáная адно рэдкімі стрэламі, якія даводзілі, што хоць супраціўнікі перасталі біцца, яны тым не меней працягвалі несці пільную варту. Было каля чацвёртай гадзіны раніцы, час, калі чалавек, не спаўшы ноч, адчувае нясцерпны холад і разам з тым маральную прыгнечанасць, спрычыненую фізічнай стомай і неадольным жаданнем заснуць. Не знойдзецца ніводнага прыстойнага вайскоўца, які б не прызнаўся, што якраз у такім фізічным і духоўным стане ён здольны на ўчынкі, за якія яму прыйшлося б чырванець, як настане дзень.

— Да д'ябла,— закрычаў закручаны ў плашч дон Гар-

[1] Сціплы *(ісп.)*.

сія, тупаючы, каб сагрэцца.— Я адчуваю, як у мяне кроў спыняецца ў жылах. Здаецца, галандскае дзіця забіла б мяне цяпер піўным куфлем. Папраўдзе, я сябе не пазнаю. Вось я здрыгануўся, пачуўшы стрэл. О, калі б я быў пабожны, я б сам палічыў гэты мой дзіўны стан як папярэджанне неба.

Усе прысутныя, асабліва дон Хуан, вельмі здзівіліся, што ён загаварыў пра неба, бо яно ніколі яго не цікавіла, і калі ён пра яго гаварыў, дык толькі каб пакпіць з яго. Убачыўшы, што сёй-той усміхнуўся на яго словы, ён пыхліва закрычаў:

— Каб жа толькі хто з вас не падумаў, што я баюся галандцаў, Бога або д'ябла, бо інакш, скончыўшы варту, я з ім парахуюся!

— Галандцаў дык хай сабе, але ж Бога і Таго — чаму ж іх не баяцца? — сказаў стары сівавусы капітан, у якога пры шпазе вісеў ружанец.

— А што яны мне зробяць? — запытаўся дон Гарсія.— Маланка б'е не трапней за пратэстанцкі аркабуз.

— А як жа ваша душа? — запярэчыў стары капітан і перажагнаўся, пачуўшы гэтае страшнае блюзнерства.

— Ат, душа... Спачатку трэба быць пэўным, што яна ў мяне ёсць. Хто мне калі казаў, што ў мяне ёсць душа? Святары. Аднак жа гэтая прыдумка з душой прыносіць ім столькі прыбытку, што няма чаго і сумнявацца, што якраз яны яе і выдумалі, гэтак жа, як пекары выдумалі печыва, каб яго прадаваць.

— Дон Гарсія, вы кепска скончыце,— сказаў стары капітан.— Нельга казаць такія словы ў траншэі.

— У траншэі, як і ў іншым месцы, я кажу тое, што думаю. Але я памаўчу, бо вось у майго сябра дона Хуана зараз капялюш зваліцца з галавы — валасы сталі дыбарам. Ён верыць не толькі ў душу, але і ў душы чыстца.

— Я зусім не вальнадумец,— сказаў, смеючыся, дон Хуан,— і часам я зайздрошчу вашай незраўнанай абыякавасці да справаў таго свету. Але ж я прызнаюся вам, хоць бы вы і смяяліся з мяне — часам тое, што расказваюць пра адрынутых Богам, наводзіць мяне на непрыемныя думкі.

— Лепшы доказ слабасці д'ябла — тое, што вы стаіце сёння жывы ў гэтай траншэі. Даю вам слова, панове,— дадаў дон Гарсія, ляпаючы дона Хуана па плячы,— калі б д'ябал існаваў, ён бы даўно забраў гэтага хлопца. Хоць і малады, ён сапраўдны грэшнік. Ён спакусіў больш жанчын і звёў у магілу больш мужчын, чым бы гэта маглі зрабіць

двое францысканаў і двое валенсійскіх шыбенікаў, узятыя разам.

Ён яшчэ нешта гаварыў, калі з траншэі, што падступала пад стан іспанцаў, пачуўся стрэл. Дон Гарсія схапіўся за грудзі і закрычаў:

— Я паранены!

Ён нахіліўся і адразу ўпаў. Тым часам усе ўбачылі, як нейкі чалавек паспешліва ўцякае, але цемра хутка схавала яго ад даганятых.

Рана дона Гарсіі была смяротная. Стралялі з блізкай адлегласці і адразу некалькімі кулямі. Але вытрымка гэтага заўзятага вальнадумца не пакінула яго ні на хвіліну. Ён адаслаў як найдалей тых, хто намаўляў яго да споведзі, і сказаў дону Хуану:

— Адно мяне будзе засмучаць пасля смерці — тое, што капуцыны пераканаюць вас, нібыта смерць мая — пакаранне Госпада. Але ж згадзіцеся, што няма нічога больш натуральнага, чым калі ў страляніне забіваюць салдата. Яны кажуць, што стралялі з нашага боку: значыць, нейкі злапомны зайздроснік наняў забойцу. Павесьце яго, не рахуючыся, калі зловіце. Паслухайце, дон Хуан, у мяне ёсць дзве каханкі ў Антверпене, тры ў Бруселі і яшчэ ў іншых гарадах, я ўжо і не памятаю ўсіх... Я перадаю іх вам... Болей у мяне нічога няма. Вазьміце яшчэ маю шпагу... і не забудзьцеся прыёму, што я вас навучыў... Бывайце... а замест імшы хай мае таварышы добра пагуляюць пасля майго пахавання.

Прыблізна такія былі яго апошнія словы. Пра Бога і пра той свет ён рупіўся не болей, чым калі быў поўны жыцця і сілы. Ён памёр з усмешкаю на вуснах, ягоная пыха надала яму сілы да канца датрымацца агіднае ролі, што ён так доўга граў. Мадэста болей не з'яўляўся. Усе былі ўпэўненыя, што дона Гарсію забіў ён, але спробы зразумець прычыны гэтага забойства не ішлі далей за марныя здагадкі.

Дон Хуан смуткаваў па доне Гарсіі больш, як па брату. Ён, шаленец, казаў сабе, што быў яму абавязаны ўсім. Гэта ён адкрыў яму таямніцы жыцця, расплюшчыў яму вочы на свет. «Кім быў я, пакуль не сустрэў яго?» — пытаўся ён у сябе, і яго самалюбства казала, што ён стаў вышэйшы за іншых людзей. Урэшце ўсё благое, што спрычыніла знаёмства з гэтым бязбожнікам, ён абарочваў на добрае і быў за гэта так удзячны, як вучань бывае ўдзячны свайму настаўніку.

Сумнае ўражанне, што зрабіла на яго гэтая смерць, надоўга завалодала яго душою, і ён мусіў на некалькі ме-

сяцаў змяніць свой звыклы жыццёвы лад. Але паволі ён вярнуўся да старых прызвычаенняў, якія ўжо сядзелі ў ім так глыбока, што іх не мог змяніць нейкі там выпадак. Ён зноў пачаў піць, гуляць, заляцацца да жанчын і біцца з іх мужамі. Штодня ў яго былі новыя прыгоды. Сёння ён прабіраўся ў пралом варожай крэпасці, а заўтра ўзлазіў на чужы балкон; раніцаю біўся на шпагах са зняважаным мужам, а ўвечары піў з куртызанкамі.

Бавячыся ў распусце, ён даведаўся, што памёр ягоны бацька і што маці перажыла яго адно на колькі дзён, так што ён атрымаў абедзве навіны адразу. Людзі, што зналіся на справах, раілі яму — і гэта адпавядала ягоным памкненням — вярнуцца ў Іспанію і ўзяць валоданне над маяратам і зямлёю, што ён атрымаў у спадчыну. Ужо даўно яму было прабачана забойства дона Альфонса дэ Охэда, бацькі доньі Фаўсты, і ён лічыў гэта даўно скончанай справай. Дарэчы, яму хацелася паспрабаваць сябе на шырэйшым боішчы. Ён марыў пра ўцехі Севільі і пра мноства прыгажунь, якія, вядома ж, толькі і чакалі ягонага прыезду, каб яму аддацца. І так, скінуўшы збройны рыштунак, ён паехаў у Іспанію. Прабыўшы нейкі час у Мадрыдзе, ён звярнуў на сябе ўвагу на карыдзе багаццем убрання і ўменнем валодаць пікаю, зваяваў некалькі сэрцаў, але не спыніўся там надоўга. Прыехаўшы ў Севілью, ён зачараваў усіх сваім багаццем і раскошаю. Штодня ён ладзіў святочныя прыёмы і запрашаў на іх найпрыгажэйшых жанчын Андалусіі. Дзень пры дні новыя ўцехі, новыя гулянкі ў яго пышным палацы. Ён стаў завадатарам хеўры распуснікаў, якія, звычайна свавольныя і неўтаймавальныя, падпарадкоўваліся яму з пакорлівасцю, якую часта можна сустрэць у злачынных суполках. Урэшце, не было такой распусты, у якую б ён не пускаўся. Але ж багаты распуснік небяспечны не толькі сам сабою, і таму ягоны прыклад пачаў зводзіць з добрага шляху андалусійскую моладзь, якая насіла яго на руках і лічыла за ўзор да пераймання. Без сумнення, калі б Божы правід цярпеў даўжэй яго нягодніцтва, спатрэбіўся б вогненны дождж, каб выпаліць севільскі бязлад і злачынствы. Хвароба, што пратрымала дона Хуана ў ложку некалькі дзён, не змусіла яго агледзецца. Наадварот, ён прасіў лекара як найхутчэй вярнуць яму здароўе, каб аддацца новым уцехам.

Калі пайшло на папраўку, ён, бавячы час, склаў спіс усіх жанчын, якіх ён спакусіў, і ўсіх мужчын, якіх ён зняславіў. Спіс быў старанна падзелены на два слупочкі.

У адным стаялі імёны жанчын і агульнае апісанне іх знешнасці, а побач — імёны і род заняткаў іх сужонцаў. Ён з вялікай цяжкасцю прыгадваў імёны няшчасных ахвяр, і, трэба думаць, спіс гэты быў далёка не поўны. Аднойчы ён паказаў яго аднаму свайму сябру, што прыйшоў яго наведаць. У Італіі ён неяк расчуліў сэрца жанчыны, што мела смеласць пахваліцца, нібыта яна была каханкай самога папы, і таму спіс пачынаўся з яе імя, а імя папы распачынала спіс мужоў. Далей ішоў кароль, пасля герцагі, маркізы, аж да простых рамеснікаў.

— Вось, даражэнькі мой,— сказаў ён сябру,— бачыш, ніхто ад мяне не ўбярогся, ад папы да шаўца, няма такога стану, які б не сплаціў мне сваёй долі.

Дон Тарывіо — так зваўся сябар — уважліва прагледзеў спіс і аддаў дону Хуану, урачыста заявіўшы:

— Гэты спіс няпоўны!

— Што? Няпоўны? Дык каго ж тут бракуе?

— Бога,— адказаў дон Тарывіо.

— Бога? А і праўда, тут няма манашак. От, халера! Дзякуй, што падказаў. Ну дык вось, я табе прысягаю на гонар двараніна, што не пройдзе месяца, як ён будзе ў маім спісе перад імем папы і што мы будзем вячэраць тут з манашкай. У якім севільскім кляштары ёсць прыгожыя законніцы?

Праз пару дзён дон Хуан распачаў пошукі. Ён наведваў цэрквы жаночых кляштараў і там маліўся, укленчыўшы побач з кратамі, што аддзяляюць нявест Гасподніх ад рэшты вернікаў. Там ён кідаў нахабныя позіркі на нясмелых цнотак, як воўк, што ўлез у авечнік, шукае самую гладкую авечку, каб зарэзаць яе першую. Пахадзіўшы нейкі час, ён заўважыў у царкве Ружанцовай Божай Маці маладую манашку незвычайнай прыгажосці, твар якой быў агорнуты задуменным смуткам. Яна не паднімала вачэй, не глядзела ні налева, ні направа і, здавалася, цалкам паглыбілася ў боскае таемства, што чынілася перад ёю. Вусны яе ціха варушыліся, і можна было лёгка ўбачыць, што яна малілася з большым запалам і асалодай, чым усе яе сёстры. Яе твар абудзіў у дона Хуана старыя згадкі. Яму здалося, што ён недзе бачыў гэтую жанчыну, але ніяк не прыгадвалася, дзе і калі. Столькі жаночых твараў больш ці менш выразна паўставалі ў яго памяці, што было немагчыма ў іх не заблытацца. Два дні запар ён прыходзіў у тую царкву, кленчыў каля кратаў, але ніяк не мог змусіць сястру Агату падняць вочы. Так яе звалі, як ён здолеў даведацца.

Цяжкасць змагчы жанчыну, так надзейна абароненую яе становішчам і яе сціпласцю, толькі распальвала жаданні дона Хуана. Самым важным і адначасова самым цяжкім было прымусіць сябе заўважыць. Ён быў абсалютна ўпэўнены, што варта было толькі прыцягнуць увагу сястры Агаты і перамога будзе напалову забяспечаная. І вось што ён прыдумаў, каб змусіць гэтую прыгажуню падняць вочы. Ён стаў як мага бліжэй да яе, і, прычакаўшы моманту ўзнясення святых дароў, калі ўсе падаюць ніцма, ён прасунуў руку між кратаў і разліў перад сястрой Агатай бутэлечку з парфумай, што ён прынёс з сабою. Моцны пах, што імгненна разліўся навокал, змусіў маладую манашку падняць галаву, і яна не магла не ўбачыць дона Хуана, які апынуўся проста перад ёй. Спачатку на яе твары адбілася здзіўленне, пасля яна збялела як смерць, застагнала і ўпала непрытомная на каменную падлогу. Сёстры падбеглі да яе і занеслі яе ў цэлю. Дон Хуан адышоў задаволены, кажучы сам сабе: «Гэтая манашка проста чароўная. Але чым болей я на яе гляджу, тым болей мне здаецца, што яна павінна ўжо быць у маім спісе!»

Назаўтра перад пачаткам імшы ён ужо стаяў каля кратаў. Але сястры Агаты не было на яе звычайным месцы, у першым радзе манашак, яна хавалася за спінамі сясцёр. Тым не меней дон Хуан заўважыў, што яна раз-пораз крадком паглядае навокал. Ён палічыў гэта за добры знак. «Малая баіцца мяне,— думаў ён,— але яна хутка прызвычаіцца». Калі скончылася імша, ён заўважыў, што яна зайшла ў спавядальню, але, ідучы туды, мінула краты і нібыта незнарок выпусціла з рук ружанец. Дон Хуан быў занадта спрактыкаваны, каб не зразумець, што гэта была не простая няўважлівасць. Спачатку ён падумаў, што яму б не зашкодзіла займець гэты ружанец, але ён ляжаў з таго боку кратаў, і, каб яго дастаць, трэба было дачакацца, пакуль усе выйдуць з царквы. Каб дачакацца гэтай хвіліны, ён прытуліўся да калоны і, стоячы так у задуменні, закрыў вочы рукой, трошкі развёўшы пальцы, каб не прапусціць ніводзін рух сястры Агаты. Кожны, хто б пабачыў яго ў гэткай паставе, прыняў бы яго за прыстойнага хрысціяніна, паглыбленага ў пабожны роздум.

Манашка выйшла са спавядальні і ступіла пару крокаў да сярэдзіны царквы, але хутка заўважыла ці зрабіла выгляд, што заўважыла, што згубіла ружанец. Яна азірнулася і ўбачыла, што ён ляжыць каля кратаў. Яна падышла і нахілілася, каб яго падняць. У той самы момант дон

Хуан убачыў, як нешта белае праслізнула пад кратамі на гэты бок. Гэта была маленечкая паперка, складзеная ўчацвёра. Манашка адразу знікла.

Дон Хуан ад нечаканасці, што перамог раней, чым спадзяваўся, адчуў нават нейкае шкадаванне, што перад ім болей не стаіць ніякіх перашкод. Амаль такое самае шкадаванне адчувае паляўнічы, які палюе на аленя, прадчуваючы доўгую і цяжкую пагоню: раптам алень падае на самым пачатку гону, пазбаўляючы паляўнічага задавальнення і заслужанай узнагароды, якіх ён спадзяваўся ад палявання. Тым не меней ён хуценька падабраў цыдулку і выйшаў з царквы, каб спакойна яе прачытаць. Вось што там было напісана:

«Гэта Вы, дон Хуан? Ці праўда, што Вы не забыліся пра мяне? Спачатку я адчувала сябе вельмі няшчаснай, але паволі пачала звыкацца са сваёю доляй. А цяпер я стану ў сто разоў няшчаснейшай. Я мусіла б Вас ненавідзець...; Вы пралілі кроў майго бацькі...; але я не магу ні зненавідзець, ні забыцца пра Вас. Злітуйцеся з мяне. Не прыходзьце болей у гэтую царкву. Вы робіце мне занадта балюча. Бывайце, бывайце, я памерла для свету.

*Тэрэса*».

— А! Дык гэта Тэрэсіта! — закрычаў дон Хуан.— Вось чаму мне здавалася, што я яе недзе бачыў.

Ён прачытаў ліст яшчэ раз. «Я мусіла б Вас ненавідзець». Гэта значыць — я Вас кахаю. «Вы пралілі кроў майго бацькі!» Тое самае Хімена казала Радрыгу. «Не прыходзьце болей у гэтую царкву». Гэта значыць — буду чакаць Вас заўтра. Выдатна! Яна мая.

Сказаўшы гэта, ён спакойна пайшоў абедаць.

Назаўтра ён прыйшоў у царкву з загадзя падрыхтаваным лістом у кішэні і надта здзівіўся, не ўбачыўшы на сваім звыклым месцы сястры Агаты. Ніколі імша не здавалася яму такой доўгай. Ён збялеў ад злосці. Пракляўшы сто разоў ваганні Тэрэсы, ён пайшоў прагуляцца на бераг Гвадалквівіра і падумаць, штó яму рабіць. І вось на чым ён спыніўся.

Кляштар Ружанцовай Божай Маці быў вядомы сярод севільскіх кляштараў сваімі выдатнымі канфітурамі, што гатавалі самі сёстры. Ён пайшоў у пакой для прыёмаў, паклікаў брамніцу і папрасіў даць яму спіс усіх канфітураў, што былі ў продажы.

— Ці няма ў вас цытрынаў а ля Маранья? — спытаўся ён як мага натуральней.

— Цытрынаў а ля Маранья? Першы раз чую пра такі канфітур.

— Аднак жа ён цяпер самы модны, а мне дзіўна, што ў вас яго не вырабляюць.

— Цытрыны а ля Маранья?

— А ля Маранья,— паўтарыў дон Хуан па складах.— Не можа быць, каб ніводная з вашых манашак не ведала, як яго рабіць. Спытайцеся, калі ласка, у сясцёр, ці яны не ведаюць гэты канфітур. Заўтра я зайду зноў.

Праз некалькі хвілін у кляштары ўжо толькі і гаварылі што пра цытрыны а ля Маранья. Нават самыя спрактыкаваныя ніколі пра іх не чулі. І толькі сястра Агата ведала, як трэба гатаваць. Трэба было дадаць да звычайных лімонаў ружовую ваду, фіялкі і г. д. Яна сама ўзялася прыгатаваць. Дон Хуан, прыйшоўшы назаўтра, знайшоў гаршчочак канфітуру з цытрынамі а ля Маранья. На самой справе гэта была неверагодная, зусім не ядомая мешаніна, але пад паперай, у якую быў загорнуты гаршчочак, ён знайшоў ліст, напісаны рукою Тэрэсы. Гэта зноў былі просьбы адмовіцца ад яе і забыцца. Бедная дзяўчына спрабавала зманіць сама сабе. Вера, любоў да бацькі і каханне змагаліся між сабою ў душы гэтай няшчаснай, але няцяжка было заўважыць, што каханне відавочна перамагала. Назаўтра дон Хуан паслаў у кляштар свайго пахолка са скрынкай, поўнай лімонаў, каб з іх зварыла канфітур тая самая манашка, што і напярэдадні. На дне скрынкі быў умела схаваны адказ на пасланні Тэрэсы. У ім пісалася: «Я быў вельмі няшчасны. Маёй рукою кіраваў тады злы лёс. З тае злавеснае ночы я не перастаю думаць пра цябе. Я не асмельваўся спадзявацца, што ты не зненавідзіш мяне. Урэшце я цябе знайшоў. Не кажы мне болей пра твае зарокі. Перш чым пайсці ў кляштар, ты была мая. Ты не магла распараджацца сваім сэрцам, бо яно належала мне... Я прыйшоў патрабаваць скарб, які я цаню больш за жыццё. Я вярну цябе або загіну. Заўтра я прыйду пагаварыць з табою ў пакой для прыёмаў. Я не асмеліўся прыйсці туды, не папярэдзіўшы цябе. Я баюся, каб тваё хваляванне нас не выдала. Набярыся смеласці. Напішы мне, ці можна падкупіць брамніцу».

Дзве кроплі вады, умела разлітыя на паперы, удавалі слёзы, што нібыта капалі падчас пісання.

Праз некалькі гадзін кляштарны садоўнік прынёс яму адказ і запрапанаваў свае паслугі. Брамніца была непад-

купная. Сястра Агата згаджалася спусціцца ў пакой для прыёмаў, але толькі на тое, каб развітацца назаўсёды — такая была яе ўмова.

Няшчасная Тэрэса прыйшла на спатканне ледзь жывая. Яна мусіла трымацца аберуч за краты, каб не ўпасці. Дон Хуан стаяў непарушна спакойны і з асалодай цешыўся з яе замяшання. Спачатку, каб збіць з тропу брамніцу, ён пачаў безуважна расказваць пра сяброў Тэрэсы, што засталіся ў Саламанцы і прасілі перадаць ёй прывітанні. Пасля, прычакаўшы хвілі, калі брамніца адышлася, ён пачаў ціхенька і хутка гаварыць Тэрэсе:

— Я гатовы пайсці на ўсё, каб выцягнуць цябе адсюль. Калі спатрэбіцца падпаліць кляштар, я падпалю. Не хачу нічога слухаць. Ты належыш мне. Праз некалькі дзён ты будзеш мая або я загіну, але разам са мною загінуць і іншыя.

Падышла брамніца. Доньі Тэрэсе заняло дух, яна не магла вымавіць слова. Дон Хуан тым часам безуважна прадаўжаў гаварыць пра канфітуры, пра вышыванне, якім займаліся манашкі, паабяцаў брамніцы прыслаць ёй ружанец, пасвянцоны ў Рыме, і падараваць кляштару парчовыя шаты, каб падчас фэстаў прыбіраць у іх святую заступніцу. Пагаварыўшы так паўгадзіны, ён самым паважным чынам развітаўся з Тэрэсай, пакінуўшы яе ў стане неапісальнага ўзрушэння і роспачы. Яна ўцякла, зачынілася ў сваёй цэлі, і там рука яе, больш паслухмяная за язык, напісала доўгі ліст, поўны папрокаў, мальбы і плачу. Але яна не магла не прызнацца ў сваім каханні і прабачала сабе гэтую правіну, думаючы, што адкупіць яе адмовай саступіць намаўленням свайго каханка. Садоўнік, які спрыяў гэтым злачынным зносінам, прынёс у хуткім часе адказ. Дон Хуан зноў пагражаў, што пойдзе на апошнія крайнасці. Ён меў да паслугаў сотню малойцаў. Святакрадства яго не палохала. Ён быў бы шчаслівы памерці, калі б толькі мог яшчэ раз сціснуць у абдымках сваю каханку. Што ж магло гэтае слабое дзіця, звыклае слухацца чалавека, якога кахала больш за жыццё? Цэлымі начамі яна плакала, а ўдзень яна не магла маліцца, бо вобраз дона Хуана не пакідаў яе ні на хвіліну. Нават калі ўсе сёстры навокал самазабыўна маліліся, яна толькі машынальна паўтарала малельныя рухі, а душа яе гарэла згубнай страсцю.

Праз некалькі дзён у яе больш не засталося сілы супраціўляцца. Яна паведаміла дону Хуану, што гатовая на ўсё. Яна бачыла, што выйсця ў яе няма, і вырашыла, што калі

ўжо паміраць, дык перад тым варта перажыць хоць бы хвіліну шчасця. Дон Хуан, акрылены радасцю, падрыхтаваў усё, каб яе выкрасці. Ён выбраў бязмесячную ноч. Садоўнік перадаў Тэрэсе шаўковую лесвіцу, каб яна магла пералезці цераз кляшторны мур. Пакет са звычайным убраннем быў схаваны ў садзе ў дамоўленым месцы, бо не было і гаворкі пра тое, каб выйсці ў горад у манаскім уборы. Дон Хуан мусіў чакаць яе пад мурам. Непадалёк будзе стаяць партшэз, запрэжаны магутнымі муламі, які завязе яе ў маёнтак за горадам. Там яе ніхто не знойдзе, і яна будзе спакойна і шчасліва жыць з каханым чалавекам. Такі быў план, складзены самім донам Хуанам. Ён замовіў пашыць неабходнае адзенне, падрыхтаваў вяровачную лесвіцу, паслаў разам з ёй парады, як лепш яе замацаваць. Карацей кажучы, ён прадугледзеў усё, што б забяспечыла поспех яго задумы. Садоўнік быў чалавек надзейны, ён меўся зарабіць добрыя грошы за сваю вернасць, і таму ў ім можна было не сумнявацца. Да таго ж былі прынятыя захады, каб ён быў забіты наступнай ноччу пасля выкрадання. Урэшце ўсё было так удала задумана, што, здавалася, нічога не магло перашкодзіць гэтаму смеламу плану.

Каб адвесці ад сябе падазрэнні, дон Хуан ад'ехаў у замак Маранья за два дні да таго, як мелася адбыцца выкраданне. У гэтым замку ён правёў большую частку свайго дзяцінства, але пасля свайго звароту ў Севілью ён яшчэ не быў тут ні разу. Ён прыехаў пад ноч, і першым яго клопатам было добра павячэраць. Пасля ён загадаў сябе раздзець і лёг спаць. У сваім пакоі ён загадаў запаліць дзве васковыя свяцільні, на стале ў яго ляжала кніга з легкадумнымі апавяданнямі. Ён прачытаў колькі старонак і, адчуваючы, што засынае, загарнуў кнігу і патушыў адну свяцільню. Перш чым патушыць другую, ён няўважна абвёў позіркам увесь пакой і раптам убачыў у сваім алькове карціну, на якой паказваліся чыстцовыя пакуты, карціну, якую ён так часта бачыў у дзяцінстве. Міжволі яго позірк спыніўся на чалавеку, якому змяя выядала вантробы, і, хоць цяпер гэтая выява абуджала ў ім яшчэ болей жаху, чым даўней, ён не мог адвесці ад яе вачэй. Тым часам яму прыгадаўся твар капітана Гамарэ і жудасныя сутаргі, што на ім адбіліся. Ад гэтай згадкі ён здрыгануўся і адчуў, як валасы ўсталі дыбарам на галаве. Аднак, набраўшыся мужнасці, ён патушыў апошнюю свяцільню, спадзеючыся, што ў цемры ён вызваліцца ад агідных вобразаў, якія не давалі яму спакою. Але цемра нагнала яшчэ болей страху. Вочы яго

ўсё шукалі карціну і не маглі знайсці, але ён так добра яе ведаў, што ў яго ўяўленні яна малявалася гэтак жа выразна, як удзень. Часам яму нават здавалася, што твары пачынаюць свяціцца, быццам чыстцовы агонь, намаляваны мастаком, быў сапраўдны. Нарэшце ён так расхваляваўся, што гукнуў з усяе моцы сваіх чаляднікаў, каб яны знялі карціну, якая так яго страшыла. Калі яны ўвайшлі ў пакой, яму зрабілася сорамна за сваю слабасць. Ён падумаў, што гэтыя людзі будуць смяяцца з яго, калі даведаюцца, што ён спалохаўся карціны. І таму ён папрасіў іх, надаўшы голасу як мага болей натуральнасці, каб яны запалілі свечы і адыйшлі. Пасля ён зноў узяўся за чытанне, але позірк яго безуважна прабягаў па старонках, а з галавы ўсё не ішла карціна. У гэткім невыказным узрушэнні ён правёў усю ноч, не заснуўшы ні на хвіліну.

Як толькі развіднела, ён паспешліва ўстаў і паехаў на паляванне. Фізічныя рухі і свежае ранішняе паветра паволі яго супакоілі, і калі ён вярнуўся ў замак, уражанні, выкліканыя карцінай, забыліся. Ён сеў за стол і напіўся. Трошкі ачмураны віном, ён пайшоў спаць. Паводле яго загаду, яму было пасцелена ў іншым пакоі, і, вядома ж, у яго і ў думках не было перанесці туды карціну, але ўспамін пра яе быў такі моцны, што ён і гэтай ноччу доўга не мог заснуць.

Зрэшты, усе гэтыя жахі зусім не навялі яго на думку раскаяцца ў сваім марным жыцці. Ён працягваў займацца падрыхтоўкай да выкрадання і, аддаўшы чэлядзі неабходныя загады, ад'ехаў адзін у Севілью сярод спякотнага дня, каб прыехаць туды толькі ўночы. І сапраўды, была ўжо глыбокая ноч, калі ён праехаў каля вежы дэль Льёро, дзе яго чакаў слуга. Дон Хуан перадаў яму каня і спытаўся, ці партшэз з муламі быў гатовы. Паводле яго загадаў, партшэз мусіў чакаць на вуліцы недалёка ад кляштара, каб яны з Тэрэсай маглі хутка да яго дабегчы, і разам з тым не надта блізка, каб не выклікаць падазрэнняў варты, калі яна ім сустрэнецца. Усё было гатова, усе яго распараджэнні былі выкананыя да драбніц. Заставалася яшчэ гадзіна да таго, як можна было падаць Тэрэсе ўмоўны знак. Слуга накінуў яму на плечы шырокі цёмны плашч, і дон Хуан увайшоў адзін у Севілью праз Трыянскую браму, закрыўшы твар плашчом, каб ніхто яго не пазнаў. Знясілены спёкай і стомай, ён сеў на лаву на пустыннай вулцы і, каб прабавіць час, пачаў напяваць сабе пад нос песні, што прыходзілі яму на памяць. Час ад часу ён пазіраў на гадзіннік і з пры-

красцю адзначаў, што стрэлка рухаецца занадта павольна... І раптам да яго вушэй данеслася ўрачыстая жалобная музыка. Спачатку ён пазнаў спевы, што Царква прысвячае памерлым. Неўзабаве з-за рога паказалася жалобнае шэсце і накіравалася да яго. Дзве доўгія чарады пакаяльнікаў з запаленымі свечкамі ішлі перад пакрытай чорным аксамітам труною, якую неслі людзі, убраныя па-старадаўняму, з сівымі барадамі і шпагамі на баку. Шэсце замыкалі дзве чарады пакаяльнікаў у жалобных строях, яны, як і першыя, неслі запаленыя свечкі. Ішлі яны павольна і паважна. Іх крокаў не было чуваць, і здавалася, што кожная постаць плыве ў паветры, а не ступае па бруку. Іх доўгія шаты і плашчы здаваліся нерухомымі, як мармуровыя ўборы статуй.

Спачатку гэтае відовішча выклікала ў дона Хуана агіду, якая ўзнікае ў эпікурэйца на думку пра смерць. Ён устаў і хацеў адысці, але колькасць пакаяльнікаў і пышнасць працэсіі здзівілі яго і распалілі яго цікаўнасць. Шэсце накіроўвалася ў бліжэйшую царкву, дзверы якой са скрыгатам расчыніліся, і дон Хуан спыніў за рукаў адну з постацяў, што несла свечку, і ветліва запытаўся, штó за асобу хаваюць. Пакаяльнік падняў галаву: твар у яго быў бледны і бясплотны, як у чалавека, што перанёс доўгую і пакутлівую хваробу. Ён адказаў магільным голасам:

— Графа дона Хуана дэ Маранья.

Ад гэтага дзіўнага адказу валасы на галаве ў дона Хуана сталі дыбарам, але праз хвіліну ён супакоіўся і ўсміхнуўся.

«Відаць, я не расчуў,— падумаў ён,— або гэты стары памыліўся».

Ён увайшоў у царкву разам з працэсіяй. Пачаліся жалобныя спевы пад гукі арганаў, і святары, убраныя ў жалобныя шаты, зацягнулі *De profundis*[1]. Нягледзячы на намаганні здавацца спакойным, дон Хуан адчуў, як у яго ў жылах стыне кроў. Падышоўшы да другога пакаяльніка, ён запытаўся:

— Дык каго ж гэта хаваюць?

— Графа дона Хуана дэ Маранья,— адказаў пакаяльнік глухім і страшным голасам. Дон Хуан прытуліўся да калоны, каб не ўпасці. Ён адчуваў, што траціць прытомнасць, мужнасць пакінула яго. Тым часам набажэнства працягвалася, і пад скляпеннямі яшчэ грымелі гукі арганаў і галасы,

---

[1] «З глыбіняў (я азваўся да цябе)» — першыя словы каталіцкае малітвы, якая спяваецца пры пахаванні *(лац.)*.

што спявалі жудаснае *Dies irae*[1]. Яму падалося, што ён чуе спевы анёлаў на страшным судзе. Урэшце, набраўшыся сілы, ён схапіў за руку святара, што праходзіў міма. Рука была халодная, як мармур.

— У імя неба! Ойча,— закрычаў ён,— за каго вы тут моліцеся і хто вы такія?

— Мы молімся за графа дона Хуана дэ Маранья,— адказаў святар і пільна паглядзеў на яго вачыма, поўнымі смутку.— Мы молімся за яго душу, якая гіне ў смяротным граху, а самі мы — душы, якія імшамі і малітвамі яго маці былі выбаўленыя з чыстцовага полымя. Мы сплочваем сыну тое, што былі вінаватыя яго маці, але гэтая імша — апошняя, якую нам дазволена адслужыць за душу графа дона Хуана дэ Маранья.

У гэты момант царкоўны гадзіннік прабіў адзін удар — час, на які было прызначана выкраданне Тэрэсы.

— Час настаў,— закрычаў голас недзе з цёмнага кута царквы,— час настаў! Цяпер ён наш!

Дон Хуан павярнуў галаву і ўбачыў жахлівае відовішча. Перад ім паўстаў крывавы і бледны дон Гарсія, а разам з ім — капітан Гамарэ, твар якога скруціў страшны курч. Абодва яны падышлі да труны, і дон Гарсія, з лютасцю скінуўшы века на дол, паўтарыў:

— Цяпер ён наш!

Тым часам з-за яго спіны вылезла вялізная змяя, гатовая кінуцца ў труну.

— О Божа! — закрычаў дон Хуан і ўпаў непрытомны на каменную падлогу.

Стаяла ўжо глыбокая ноч, калі варта заўважыла чалавека, што ляжаў нерухома каля царкоўнай брамы. Стражнікі падышлі, думаючы, што гэта цела забітага чалавека. Яны адразу пазналі графа дэ Маранья і паспрабавалі прывесці яго да памяці, пырскаючы ў твар халоднай вадой. Але, бачачы, што гэта не дапамагае, яны занеслі яго дадому. Адныя казалі, што ён п'яны, другія — што яго набіў нейкі раўнівы муж. Ніхто ў Севільі, прынамсі, з людзей прыстойных, не любіў яго, і кожны сказаў цяпер сваё слова. Адзін блаславіў кій, які так добра яго ўходаў, другі спрабаваў угадаць, колькі ж пляшак улезла ў гэты нерухомы мех. Слугі дона Хуана атрымалі свайго гаспадара з рук стражнікаў і пабеглі па хірурга. Яму пусцілі кроў, і ў хуткім часе ён апрытомнеў. Спачатку ад яго пачулі толькі бязладныя

[1] «Дзень гневу» *(лац.)*.

словы, незразумелыя воклічы, плач і стогны. Але паволі ён пачаў разглядацца навокал. Ён спытаўся, дзе ён, пасля — што здарылася з капітанам Гамарэ, донам Гарсіям і жалобным шэсцем. Слугі вырашылі, што ён звар'яцеў. Аднак, выпіўшы ўзмацняльных лекаў, ён загадаў прынесці распяцце і пачаў яго цалаваць, патанаючы ў слязах. Урэшце ён запатрабаваў, каб яму прывялі спавядальніка.

Усіх гэта вельмі здзівіла, бо ўсе добра ведалі пра яго бязбожнасць. Некалькі святароў, якіх запрашалі слугі, адмовіліся да яго прыйсці, думаючы, што ён хоча састроіць з імі злы жарт. Нарэшце адзін манах-дамініканін згадзіўся. Іх пакінулі сам-насам, і дон Хуан, кінуўшыся манаху ў ногі, расказаў, што́ яму прымроілася. Пасля ён выспавядаўся. Расказваючы пра кожнае сваё злачынства, ён часта спыняўся і пытаўся, ці магчыма, каб такі вялікі грэшнік, як ён, атрымаў некалі нябеснае прабачэнне. Манах адказваў, што літасць Божая не мае межаў. Заклікаўшы яго быць непахісным у сваім раскаянні і даўшы яму суцяшэнне, якое царква не адмаўляе нават найстрашнейшым злачынцам, ён паабяцаў зайсці ўвечары. Дон Хуан маліўся праз цэлы дзень, і, калі ўвечары дамініканін вярнуўся, ён абвясціў сваё рашэнне аддаліцца ад свету, дзе ён нарабіў столькі злачынстваў, і паспрабаваць адкупіць раскаяннем незлічоныя грахі, што загубілі яго душу. Манах, крануты яго слязамі, падбадзёрыў яго як мог і, каб пабачыць, ці дастаткова ў яго рашучасці для выканання свайго намеру, намаляваў яму суровую карціну цяжкасцяў і нягод кляштарнага жыцця. Але пасля кожнага апісанага ім спосабу марэння плоці дон Хуан казаў, што яго гэта не палохае і што ён заслугоўвае на значна суравейшае абыходжанне.

Ужо назаўтра ён падараваў палову маёмасці сваім бедным сваякам. Частку грошай ён адпісаў на пабудову шпіталя і фундацыю капліцы. Ён раздаў значную суму ўбогім і заказаў нямала імшаў за душы чыстца, асабліва за душу капітана Гамарэ і за душы тых няшчасных, каго ён забіў на дуэлях. Нарэшце ён сабраў усіх сваіх сяброў і павінаваціўся перад імі ў тым благім прыкладзе, што ён так доўга ім даваў. Узрушанымі словамі ён абмаляваў ім пакуты сумлення за свае колішнія паводзіны і надзеі, якія ён захоўваў на будучыню. Яго словы кранулі некаторых распуснікаў, і яны выправіліся. Іншыя ж, непапраўныя, пакінулі яго, халодна ўсміхнуўшыся.

Перш чым замкнуцца ў кляштары, які ён выбраў для ўсамотнення, дон Хуан напісаў доньі Тэрэсе. Ён прызнаўся

ёй у сваіх ганебных намерах, расказаў ёй пра сваё жыццё, пра сваё наверненне, прасіў у яе прабачэння і заклікаў пайсці за ягоным прыкладам і шукаць уратавання ў раскаянні. Ён перадаў гэты ліст з дамініканінам, паказаўшы яму, што ў ім напісана.

Няшчасная Тэрэса доўга чакала тады ў садзе ўмоўнага знаку. Правёўшы некалькі гадзін у невыказнай узрушанасці, бачачы, што ўжо бярэцца на дзень, яна вярнулася ў цэлю, ахопленая несуцешным смуткам. Яна тлумачыла сабе адсутнасць дона Хуана тысячай прычын, аднолькава далёкіх ад праўды. Так прайшло колькі дзён, яна не атрымала ад яго ніводнай навіны, ніякая вестачка не даляцела да яе, каб суцешыць яе роспач. Урэшце манах, параіўшыся папярэдне з прэоркай, атрымаў дазвол сустрэцца з ёю і перадаў ёй ліст скрушанага спакусніка. Тым часам, як яна чытала, на лобе ў яе выступілі буйныя кроплі поту, яна то чырванела, як полымя, то бялела, як смерць. Ёй, аднак, хапіла сілы дачытаць ліст да канца. Тады дамініканін паспрабаваў апісаць ёй раскаянне дона Хуана і павіншаваць яе з тым, што яна пазбегла страшнай небяспекі, што чакала іх абаіх, калі б своечасовае ўмяшанне Божага правіду не разбурыла іх план. Але на ўсе гэтыя ўшчуванні донья Тэрэса адказвала з плачам: «Ён ніколі мяне не кахаў!» Няшчасную ахапіла гарачка, і ёй не дапамаглі сродкі медыцыны і рэлігіі: першыя яна адхіліла, другія ўспрымала абыякава. Праз некалькі дзён яна згасла, не перастаючы паўтараць: «Ён ніколі мяне не кахаў!»

Дон Хуан, стаўшы паслушнікам, паказаў, што яго наверненне было шчырае. Любыя пакуты здаваліся яму недастаткова суровымі, і прэор часта быў вымушаны загадваць яму, каб ён не так заўзята марыў плоць. Ён тлумачыў, што так ён скароціць свае дні і што больш мужным будзе цярпець як найдаўжэй ад памяркоўных пакутаў, чым адразу спыніць пакаянне, адабраўшы сабе жыццё. Калі тэрмін паслушніцтва скончыўся, дон Хуан даў зарок і, узяўшы імя брата Амбросіо, працягваў дзівіць увесь кляштар сваёй суровасцю і набожнасцю. Пад грубай світай з радна ён насіў валасяніцу з конскага воласу, вузкая і кароткая скрынка была яму за ложак. Звараная ў вадзе гародніна складала ўсё яго харчаванне, і толькі ў святочныя дні на загад прэора ён згаджаўся есці хлеб. Большую частку ночы ён не спаў і маліўся, развёўшы рукі ў бакі, як жывы крыж. Карацей кажучы, ён стаўся прыкладам гэтага пабожнага супольства, як некалі быў прыкладам сваім распусным аднагодкам. По-

шасць, якая абрынулася на Севілью, дала яму магчымасць выпрабаваць новыя якасці, дадзеныя яму наверненнем. Хворых бралі ў заснаваны ім шпіталь. Ён даглядаў убогіх, сядзеў цэлымі днямі каля іх ложкаў, заклікаў іх маліцца, падбадзёрваў, суцяшаў. Небяспека заражэння была такая, што ні за якія грошы нельга было знайсці людзей, якія згадзіліся б хаваць памерлых. Гэтую службу выконваў дон Хуан, ён хадзіў па спустошаных смерцю дамах і збіраў для пахавання трупы, што ўжо пачыналі гніць, бо ляжалі там ужо некалькі дзён. Яго паўсюль бласлаўлялі, а як падчас пошасці ён так і не захварэў, дык некаторыя прымхлівыя людзі запэўнівалі, што Бог учыніў праз яго новы цуд.

Ужо некалькі гадоў дон Хуан, або брат Амбросіо, жыў у кляштары, і жыццё ягонае было бясконцай чарадою малітваў і самакатаванняў. Успаміны аб колішнім жыцці яшчэ не сцерліся з яго памяці, але душэўныя пакуты суняліся, сумленне супакоілася пад уплывам зменаў, што ў ім адбыліся.

Аднаго дня пасля абеду, калі бязлітасна паліла сонца, усе манахі, як звычайна, адпачывалі. І толькі брат Амбросіо працаваў у садзе з непакрытай галавою пад сонцам — гэта было адно з пакаранняў, што ён сабе прызначыў. Схіліўшыся над рыдлёўкай, ён убачыў цень чалавека, што спыніўся побач з ім. Ён падумаў, што нехта з манахаў спусціўся ў сад, і, не спыняючы працы, прывітаў яго словамі з *Ave Maria*[1], але не пачуў адказу. Здзіўлены гэтым нерухомым ценем, ён падняў вочы і ўбачыў, што перад ім стаіць высокі малады чалавек, укрыты плашчом, што спадаў да зямлі, з тварам, напалову схаваным пад капелюшом з белым і чорным пяром. Чалавек моўчкі глядзеў на яго са злоснай радасцю і глыбокай пагардай у вачах. Некалькі хвілін яны ўважліва разглядалі адзін аднаго. Нарэшце незнаёмы, падышоўшы бліжэй і зняўшы капялюш, каб адкрыць твар, спытаўся:

—Вы мяне не пазналі?

Дон Хуан яшчэ ўважлівей угледзеўся ў твар, але не пазнаў.

— Ці памятаеце вы аблогу Бэрг-оп-Зума? — спытаўся незнаёмы.— Вы, пэўна, забыліся пра салдата, якога звалі Мадэста?..

Дон Хуан здрыгануўся. Незнаёмы халодна прадаўжаў:

— Салдата, якога звалі Мадэста, які забіў з аркабуза вашага шаноўнага сябра дона Гарсію, хоць і цэліўся ў вас?..

---

[1] «Будзь прывітаная, Марыя» — першыя словы каталіцкай малітвы *(лац.)*.

Мадэста — гэта я! Але ў мяне, дон Хуан, ёсць яшчэ адно імя. Мяне завуць дон Пэдра дэ Охэда, я — сын дона Альфонса дэ Охэда, забітага вамі, я — брат доні Фаўсты дэ Охэда, забітае вамі, я — брат доні Тэрэсы дэ Охэда, забітае вамі.

— Брат мой,— сказаў дон Хуан, укленчыўшы перад ім,— я — нягоднік, што ўчыніў шмат злачынстваў. І, каб адкупіць іх, я надзеў гэтае ўбранне і адмовіўся ад свету. Калі ёсць хоць нейкі сродак заслужыць вашага прабачэння, назавіце мне яго. Самае суровае пакаранне не спалохае мяне, калі я здолею зняць з сябе вашае пракляцце.

Дон Пэдра горка ўсміхнуўся:

— Не будзем крывадушнічаць, сеньёр дэ Маранья. Я вам не прабачаю. Што да маіх пракляццяў, дык вы іх заслужылі. Але я занадта нецярплівы, каб чакаць іх дзеяння. У мяне з сабою ёсць штосьці больш дзейснае за ўсякія пракляцці.

Сказаўшы гэта, ён скінуў плашч і паказаў дзве шпагі. Ён дастаў іх з ножнаў і ўтыркнуў абедзве ў зямлю.

— Выбірайце, дон Хуан,— сказаў ён.— Кажуць, вы ўмелы забіяка, але я таксама прэтэндую на ўмельства ў фехтаванні. Паглядзім, на што вы здатны.

Дон Хуан перажагнаўся і сказаў:

— Брат мой, вы забыліся, што я даў зарок. Я ўжо не той дон Хуан, якога вы ведалі, я цяпер брат Амбросіо.

— Ну дык вось, брат Амбросіо! Вы — мой вораг, і якое б імя вы ні насілі, я вас ненавіджу і хачу вам адпомсціць.

Дон Хуан зноў укленчыў перад ім.

— Калі вам патрэбнае маё жыццё, брат мой, дык бярыце яго. Пакарайце мяне так, як хочаце.

— Крывадушны баязлівец! Думаеш мяне абдурыць? Калі б я хацеў забіць цябе, як шалёнага сабаку, ці стаў бы я сюды валачы гэтую зброю? Ану, выбірай хутчэй і абараняйся.

— Паўтараю вам, брат мой, мне нельга біцца, але я гатовы памерці.

— Мярзотнік! — закрычаў раз'юшаны дон Пэдра.— Мне казалі, што ты адважны чалавек, а ты, як я бачу, подлы тхор!

— Ты кажаш пра адвагу, брат мой? Я прашу Бога даць мне адвагу, каб не ўпасці ў роспач ад успамінаў пра мае злачынствы. Бывайце, брат мой, я пайду, бо бачу, што мой выгляд вас раздражняе. Хай маё раскаянне падасца вам некалі такім шчырым, як яно ёсць на самай справе!

Ён павярнуўся, каб выйсці з саду, але дон Пэдра спыніў яго за рукаў.

— Адзін з нас не выйдзе адсюль жывы. Вазьміце любую з гэтых шпаг, бо хай мяне д'яблы возьмуць, калі я веру хоць аднаму слову ў вашым мармытанні!

Дон Хуан умольна паглядзеў на яго і ступіў яшчэ адзін крок, але дон Пэдра рэзка схапіў яго за каўнер і сказаў:

— Дык ты думаеш, гнюсны забойца, што выслізнеш з маіх рук! О не! Я раздзяру твае махлярскія шаты, пад якімі хаваюцца д'яблавы капыты, і тады, можа, ты наважышся біцца са мной.

Сказаўшы гэта, ён груба штурхнуў яго да муру.

— Сеньёр Пэдра дэ Охэда,— закрычаў дон Хуан,— забіце мяне, калі хочаце, але я не буду біцца!

І ён склаў рукі і спакойна, але з гонарам паглядзеў на дона Пэдра.

— Так, я заб'ю цябе, паскуднік! Але спачатку я абыдуся з табою, як з пужлівым тхаром.

І ён даў яму поўху, першую ў жыцці дона Хуана. Твар дона Хуана збарвавеў. Юнацкая гордасць і гнеў абудзіліся ў ягонай душы. Не сказаўшы ні слова, ён схапіў шпагу. Дон Пэдра ўзяў другую і падрыхтаваўся біцца. Абодва раз'юшана кінуліся насустыч і адначасна праткнулі адзін аднаго. Шпага дона Пэдра заблыталася ў адзежыне дона Хуана і прайшла міма цела, не зачапіўшы яго, а шпага дона Хуана ўвайшла па рукаяць у грудзі супраціўніка. Дон Пэдра сканаў на месцы. Дон Хуан, убачыўшы, што вораг ляжыць ля яго ног, нейкі час не мог паварушыцца і стаяў, няўцямна ўтаропіўшыся ў яго. Паволі ён апрытомнеў і зразумеў цяжкасць свайго новага грэху. Ён кінуўся да нябожчыка і паспрабаваў вярнуць яго да жыцця. Але ён добра знаўся на ранах і мог не сумняваючыся сказаць, што гэтая была смяротная. Скрываўленая шпага ляжала пад нагамі і, здавалася, сама прасілася ў рукі, каб ён пакараў сябе. Але, хутка адхіліўшы гэтую новую д'яблаву спакусу, ён пабег да прэора і задыханы ўварваўся ў яго цэлю. Там, упаўшы ніцма да яго ног, ён апісаў гэтае жахлівае здарэнне, праліваючы патокі слёз. Спачатку прэор адмовіўся яму паверыць і падумаў быў, што самакатаванні брата Амбросіо адабралі ў яго розум. Але кроў на руках і на адзенні дона Хуана не далі яму доўга сумнявацца ў страшнай праўдзе. Прэор быў чалавек разважлівы. Ён адразу зразумеў, які скандал абрынецца на кляштар, калі

нехта даведаецца пра гэтае здарэнне. Ніхто не бачыў гэтай бойкі. Ён паклапаціўся, каб пра яе не даведаліся нават насельнікі кляштара. Ён загадаў дону Хуану ісці за ім, перанёс з яго дапамогай нябожчыка ў склеп і забраў з сабой ключ. Пасля, замкнуўшы дона Хуана ў сваёй цэлі, ён пайшоў папярэдзіць карэхідора.

Можна было б здзівіцца, што дон Пэдра, які ўжо аднойчы спрабаваў падступна забіць дона Хуана, адкінуў думку пра паўторную спробу забойства і імкнуўся расправіцца з ворагам у сумленным двубоі. Але ў гэтым быў разлік пякельнай помсты. Ён чуў пра суровае жыццё дона Хуана, розгалас пра яго святасць разышоўся вельмі шырока, і дон Пэдра не сумняваўся, што, забіўшы яго, ён адашле яго простым шляхам на неба. Ён спадзяваўся, што калі, выклікаўшы яго на дуэль і змусіўшы біцца, ён заб'е яго, дык дон Хуан сканае ў смяротным грэху і пагубіць такім чынам сваё цела і душу. Але ж гэтая д'ябальская задума павярнулася супраць яе аўтара.

Прыкрыць справу было няцяжка. Прэор дамовіўся з карэхідорам, і той згадзіўся адвесці падазрэнні. Іншыя манахі паверылі, што забіты загінуў у дуэлі з невядомым кавалерам, і смяротна параненага яго прынеслі ў кляштар, дзе ён неўзабаве сканаў. Што да дона Хуана, дык я не буду апісваць ні яго пакутаў, ні яго раскаяння. Ён з радасцю прыняў усе пакаранні, што яму прызначыў прэор. Да самай яго смерці шпага, якою ён забіў дона Пэдра, вісела над яго ложкам, і, бачачы яе, ён заўсёды маліўся за душу няшчаснага забітага і за душы яго родных. Каб адолець рэшткі свецкай пыхі, што яшчэ заставаліся ў ягоным сэрцы, прэор загадаў яму штораніцы прыходзіць да кляштарнага кухара, каб той даваў дону Хуану поўху. Атрымаўшы поўху, брат Амбросіо заўсёды падстаўляў другую шчаку і дзякаваў кухару за тое, што ён так яго зневажае. Ён пражыў яшчэ дзесяць гадоў у гэтым кляштары і ні разу не спыніў свайго пакутлівага пакаяння, каб вярнуцца да страсцяў сваёй маладосці. Ён памёр, шанаваны, як святы, нават тымі, хто ведаў яго колішняе распуснае жыццё. Перад смерцю ён папрасіў як аб найвышэйшай ласцы, каб яго пахавалі пад парогам царквы і каб кожны, хто б туды ўваходзіў, таптаў яго нагамі. І яшчэ ён хацеў, каб над яго магілай выбілі такі надпіс: *Тут спачывае найгоршы з людзей, што жылі на зямлі*. Але не ўсе просьбы, прадыктаваныя яго надмернай пакорлівасцю, было палічана дарэчным выканаць. Ён быў пахаваны побач з галоўным алтаром фундаванай ім капліцы.

Праўда, на надмагіллі згадзіліся выбіць надпіс, які ён хацеў, аднак да яго дадалі пахвальную аповесць аб яго наверненні. Яго шпіталь і асабліва капліцу, дзе ён пахаваны, наведваюць усе, хто прыязджае ў Севілью. Мурыльё аздобіў капліцу сваімі шэдэўрамі. «Вяртанне блуднага сына» і «Ерыхонская купальня», якімі цяпер захапляюцца наведнікі галерэі маршала Сульта, некалі ўпрыгожвалі сцены шпіталя Міласэрнасці.

## ДУШЫ ЧЫСТЦА

Упершыню надрукавана ў часопісе «Revue des Deux Mondes» 15 жніўня 1834 года. У 1841 годзе выйшла асобнаю кнігай разам з навеламі «Венера Ільская» і «Каломба».

С. 51. *...у трактаце «Аб натуры багоў»* — дакладней, у раздзеле XXI трэцяй часткі згаданага трактата Цыцэрона.

*Дон Хуан Тэнорыо* — персанаж шэрагу легендаў, распуснік і валацуга, яго вобраз выкарыстаны ў камедыі Мальера «Дон Жуан», Моцартавай оперы з той самай назвай і ў драме Пушкіна «Каменны госць».

*Дон Хуан дэ Маранья* — маецца на ўвазе севільскі арыстакрат дон Мігель дэ Маньяра (1626—1679), які, прабавіўшы маладыя гады ў распусце, пасля пакаяўся, стаў на шлях дабрачыннасці і пайшоў у манастыр. Мерымэ выкарыстоўвае ў навеле рысы абодвух персанажаў.

*Дзюсі* Жан-Франсуа (1733—1816) — французскі драматург, аўтар сентыментальных меладрам і перапрацовак п'ес Шэкспіра.

С. 53. *Рамансы пра Сіда* — кароткія эпічныя песні, што ўзніклі ў Іспаніі ў XIV — XV стст. і апавядалі пра нацыянальнага героя Руі Дыяса, празванага Сідам.

*Бернарда дэль Карпіо* — нацыянальны герой Іспаніі.

*Маралес* Луіс (каля 1509—1586) — іспанскі мастак, аўтар карцін на рэлігійныя тэмы.

С. 54. *...падчас аблогі Альмерыі...*— Гэты іспанскі горад і порт на Міжземным моры быў адваяваны ў маўраў у 1489 годзе.

*Вехерскі кадзі* — суддзя ў мусульманаў (тут — з андалусійскага горада Вехер).

*Альфакі* — тут: мула, што стаіць на чале збройнага атрада.

С. 59. *Аўдытар* — член суда або кароннай рады.

С. 65. *Карэхідор* — гарадскі начальнік, прызначаны каралём.

С. 77. *...пачынаючы хоць бы з Сіда.*— У паданнях пра Сіда апавядаецца пра тое, як ён, баронячы бацькоўскі гонар, забіў бацьку сваёй каханай Хімены.

С. 78. *Пакіньце Мінерву і паспрабуйце паслужыць Марсу.*— У антычнай міфалогіі Мінерва лічылася багіняю навук і мастацтваў, Марс — богам вайны.

С. 89. *Тое самае Хімена казала Радрыгу.*— У рамансах пра Сіда гаворыцца пра тое, што пасля слёз і папрокаў Хімена ўсё ж згаджаецца выйсці замуж за Радрыга, забойцу свайго бацькі.

С. 102. *Мурыльё* Барталамеа Эстэбан (1617—1682) — славуты іспанскі мастак.

*Сульт* Нікаля-Жан (1769—1851) — французскі маршал, удзельнік напалеонаўскіх войнаў; камандаваў французскімі войскамі ў Іспаніі, адкуль вывез мноства выдатных твораў мастацтва.